ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год. XXXIII № 324 Нью Ёрк — Сьнежань — 1984 — December — New York Vol. XXXIII № 324

## СТАН РЭЛІГІІ НА БЕЛАРУСІ

У сёлетнім красавіковым нумары часапісу „Коммунист Белоруссии" была зьмешчаная рэцэньзія праф. А. Малашкі на тры кнігі, выдадзеныя летась, кожная зь якіх мае дачыненьне да ідэялягічна-прапагандавых праблемаў, перад якімі стаіць цяпер савецкі аднапартыйны рэжым. У аднэй з гэтых публікацыяў (калектыўнай працы пад заг. „Оружие обреченных: психологическая война в глобальной стратегии империализма", выд. „Беларусь") асобны разьдзел прысьвечаны пытаньням рэлігіі й атэізму.

Рэцэнзэнт Малашка піша:

„Завяршае кнігу разьдзел, што раскрывае спробы імпэрыялістычнае рэакцыі выкарыстаць у антысавецкіх мэтах рэлігійныя арганізацыі, пачуцьці веручых. Выкрываецца шэраг найбольш ‚хадавых' паклёпніцкіх аргумэнтаў буржуазна-клерыкальнае прапаганды: аб палажэньні веручых у СССР, палітыцы партыі й Савецкае дзяржавы ў дачыненьні да рэлігіі й царквы. У кнізе даюцца практычныя рэкамэндацыі што да павышэньня эфэктыўнасьці атэістычнае прапаганды ў сучасных умовах".

„Сучасныя ўмовы", паводля праф. Малашкі, адзначаюцца тым, што Амэрыка праводзіць, быццамбы, супраць сацыялістычных дзяржаваў „беспрэцэдэнтавую пасыхалягічную вайну", „ідэялягічную агрэсію', „запраўдную інфармацыйна-прапагандавую інтэрвэнцыю". Адпаведна з гэткай „агрэсіяй" ды „інтэрвэнцыяй" савецкая прапагандавая машына (разам з паліцыйнымі ды судовымі органамі) і дзеіць на ўсіх „франтох" ідэялягічнае „вайны", у тым ліку й на „фроньце" рэлігійным.

На поўным ходзе працуе першнаперш навукова-выдавецкі апарат, каб філязофскімі трактатамі, сацыялягічнымі вывучэньнямі, брашурамі, часапіснымі й газэтнымі артыкуламі, лекцыйнай прапагандай выкараніць рэлігійны сьветагляд і традыцыі, разьбіць аргумэнты тых, хто адмаўляецца глядзець на сьвет праз матэрыялістычныя акуляры. Гэткае прызначэньне мае новая кніжка Р. Платонава „Ложь буржуазно-клерикальной пропаганды", што выйшла летась у выдавецтве „Беларусь".

Газэта „Советская Белоруссия" за 23. V. 1984 г. зьмясьціла рэцэньзію на гэтае выданьне, напісаную прафэсарам А. Хацкевічам.

Хоць у Савецкім Саюзе, „у тым ліку і на Беларусі", паводля рэцэнзэнта, „пераважная бальшыня людзей даўно й поўнасьцяй парвала з рэлігіяй і перайшла на трывалыя атэістычныя пазыцыі", тым ня менш леташні чырвеньскі пленум ЦК КПСС, як нагадвае Хацкевіч, „запатрабаваў ад усіх партыйных арганізацыяў распрацаваць добра прадуманую адзіную сыстэму контрпрапаганды".

Кніжка Платонава мае быць укладам у гэтую „добра прадуманую сытэму".

Праф. Хацкевіч, між іншага, называе ў сваёй рэцэньзіі, як прыклад „падрыўное дзейнасьці імпэрыялізму", рэлігійныя перадачы Беларускае сэкцыі радыё „Свабода". „Радыястанцыя ‚Свабода', — піша ён. — поўнасьцяй фінансаваная ЦРУ ЗША (на самой рэчы, фінансаваная Кангрэсам ЗША — Я. З.), толькі ў беларускай мове працуе восем гадзінаў на суткі, асабліва вылучаючы рэлігійную тэматыку".

Між іншага, у кнізе Платонава сказана. як пра гэта згадвае Хацкевіч, што „паводля ацэначных дадзеных, каля 90% дарослага гарадзкога жыхарства — няверучыя. На сяле гэты працэнт крыху ніжэйшы . . . Сярод моладзі ў веку да 20 год атэістаў 97-98 працэнтаў".

Да савецкіх „ацэначных дадзеных" трэба ставіцца памятаючы, што ў дзяржаве афіцыйнага атэізму й асуджэньня рэлігійнасьці далёка ня кожны адкрыта заяўляе пра свае запраўдныя перакананьні. Вось паказальны выпадак, пра які падала газэта „Чырвоная зьмена" (орган ЦК камсамолу Беларусі) 13 травеня сёлета:

„Член ВЛКСМ рабочы Варонаўскай ветстанцыі Уладзімір Мушынскі ўвогуле заявіў неяк на камсамольскім сходзе, што верыць у Бога і ходзіць у касьцёл. Як адрэагавалі на гэта яго таварышы-камсамольцы? А ніяк. Бо, паводля іх меркаваньня, патрабаваньні Статуту ВЛКСМ ён выконвае.

„— Людзі, падобныя да Уладзіміра Мушынскага, толькі на словах рэлігійныя, — гаворыць другі сакратар райкому камсамолу Анатоль Бялькевіч. — Гэта сярод сваіх сяброў яны могуць пахваліцца рэлігійнасьцю. А колькі разоў было так — спытаюць іх аб адносінах да веры на афіцыяльным, так сказаць, узроўні, работнік райкому ці, напрыклад, карэспандэнт газэты, адразу-ж ад сваіх слоў адмаўляюцца, кажуць, што ня вераць у Бога"..

Цудоўны камэнтар да цьверджаньняў вучонага Платонава пра „97-98 працэнтаў" атэістаў сярод беларускае моладзі!

Устурбаванасьць савецкае прапаганды рэлігійнымі пачуцьцямі й паглядамі людзей завайстраецца яшчэ й недалёкім юбілеем 1000-годзьдзя „хрышчэньня Русі", гэта значыцца пачатку працэсу хрысьціянізацыі земляў Усходняе Эўропы, у тым ліку й Беларусі. У савецкіх часапісах, газэтах, кніжных выдавецтвах пачынаюць зьяўляцца публікацыі на гэтую тэму. Тысячагодзьдзе „хрышчэньня Русі" прыпадае на 1988 год, але да гэтае вялікае даты рыхтуюцца даўно ўжо як у Савецкім Саюзе, асабліва ў Кіеве ды Маскве, гэтак і на Захадзе. У Менску тымчасам ціха аб гэтым, але, як выглядае, неўзабаве й там гэтая тэма будзе дэбатавацца канкрэтна. Пра гэта можна меркаваць з узмоцненага патоку этэістычных публікацыяў у беларускім савецкім друку на рэлігійныя тэмы.

**Я. Запруднік**

## ПРАВАСЛАЎЕ У БССР

Беларуская газэта „Ніва" (9. IX. 84) зьмясьціла інтэрвію з рэфэрэнтам Мітрапаліта Менскага й Беларускага Філарэта Сяргеем Трафімавам, студэнтам першага курсу Маскоўскай духоўнай акадэміі. Трафімаў сказаў:

„Зараз на Беларусі дзейнічае больш за 370 праваслаўных цэркваў і ў іх нясе службу больш за 400 сьвяшчэньнікаў. Сярод іх многа маладых, якіх рукапалажыў Мітрапаліт Філарэт.

„Цяпер у Маскоўскай духоўнай акадэміі і сэмінарыі займаецца больш за 20 Беларусаў, па некалькі чалавек зь Беларусі вучыцца ў духоўных школах у Адэсе й Ленінградзе. Аднак гэтага мала для такой вялікай беларускай епархіі. І цяпер Мітрапаліт пасьвячае ў духоўны сан асобаў глыбока веруючых, якія зь дзяцінства хадзілі ў царкву, добра ведамыя на прыходзе, і якія шчыра хочуць стаць сьвяшчэньнікамі. Яны праходзяць падрыхтоўку ў епархіяльных цэнтрах, а затым, ужо ў сане сьвяшчэньніка, займаюцца на завочным адзяленьні Маскоўскай духоўнай сэмінарыі".

### У КАНГРЭСАВЫМ ВЫДАНЬНІ

У выданьні амэрыканскага Кангрэсу (Hearing before the Committee on Foreign Relations. United States Senate. 98th Congress. Second Session. June 12, 1984 (U.S. Government Printing Office, Washington, 1984) зьмешчаныя два мэмарандумы пра стан рэлігіі й правоў чалавека на Беларусі. Першы мэмарандум быў пададзены сп-няй Верай Рамук, сакратаром Беларускага Каардынацыйнага Камітэту гор. Чыкага пад заг. „Заява аб рэлігійных перасьледах на Беларусі". Заява ілюстраваная фатаграфіямі на довад руйнаваньня беларускіх сьвятыняў і русыфікацыі Беларусі.

У другім мэмарандуме, пададзеным ад імя Камітэту Абароны Вязьняў Сумленьня на Беларусі, гаворыцца аб праявах рэлігійных настрояў на Беларусі, а таксама пра інтэнсыўную атэістычную кампанію савецкіх уладаў. У мэмарандуме названыя прозьвішчы арыштаваных за рэлігійныя перакананьні людзей: Вільчынская Галіна, Даўбун, Кукабака Міхал, Курс Люба, Рынкевіч Ёсіп, Сілівончык Галіна. Пералічаныя таксама прозьвішчы 44-х асобаў зь Беларусі, пераважна баптыстаў, што падпісалі ў ліку 242-х асобаў пэтыцыю да Генэральнага сакратара ААН з просьбай дапамагчы ім выехаць з Савецкага Саюзу.

### ПАМЯТАЙМА ПРА МІХАЛА КУКАБАКУ!

У беларускай праграме радыё „Свабода" 17-га кастрычніка сёлета, а ў расейскай 19-га кастрычніка, былі перададзеныя радыягутаркі пра беларускага іншадумца Міхала Кукабаку, які дагэтуль знаходзіцца ў зьняволеньні за свае палітычныя, нацыянальна-культурныя й рэлігійныя перакананьні. Хворага Міхала Кукабаку савецкая „гуманная" ўлада гадамі трымае у турмах і лягерох прымусовае працы, адмаўляючы яму права на выезд з Савецкага Саюзу, ад грамадзянства якога Кукабака адмовіўся, у які-небудзь дэмакратычны край.

### ДЛЯ КАГО ВЫДАЕЦЦА?

Сёлета ў травені споўнілася 30 гадоў як БССР уваходзіць у склад ЮНЭСКА, шырокае міжнароднае арганізацыі пры ААН, што займаецца справамі асьветы, навукі й культуры. Гадамі ўжо дзяржаўная камісія БССР да справаў ЮНЭСКА выдае двойчы на год свой бюлетэнь у ангельскай, францускай ды гішпанскай мовах. Бюлетэнь, на добрай паперы, ілюстраваны, мае бясспрэчнае інфармацыйнае значэньне. Але дарма будзеце шукаць гэтага выданьня ў якой-бы там ні было бібліятэцы Злучаных Штатаў Амэрыкі ці Канады.

Гісторыя зь бюлетэнем — гэта дзіву годны прыклад адміністрацыйнага балагану ў менскіх выдаўцоў, у якіх, як выглядае, адна рука ня ведае, што робіць другая. Незважаючы на тое, прыкладам, што працаўнікі Публічнае Бібліятэкі ў Нью Ёрку ўжо колькі разоў звараваліся да прадстаўнікоў БССР з просьбай прысылаць у Бібліятэку іхнае юнэскаўскае выданьне, бюлетэнь і дагэтуль высылаецца, відаць, толькі ў Манголію. Парадаксальна й іранічна гучаць дзеля гэтага словы сакратара Камісіі БССР да справаў ЮНЭСКА Віктара Калбасіна зь бюлетэню нумар 2 (16) з 1977 году, калі Калбасін пісаў: „Праграма ЮНЭСКА павінна прадбачыць мерапрыемствы для пашырэньня інфармацыі аб занядбаных культурах народаў Афрыкі й Лацінскае Амэрыкі ды мала ведамых культурных здабытках некаторых эўрапейскіх краінаў".

Калбасіну трэба было-б парупіцца перш-наперш пра мала ведамую ў шырокім сьвеце культуру свае собскае рэспублікі.

**Я. З.**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Народу Беларускага**

*„Я абвяшчаю вам вялікую радасьць, што будзе ўсім людзям, бо нарадзіўся вам сёньня ў месьце Давідавым Збавіцель — Хрыстос Госпад". (Лк. 2:10-11).*

Дарагія мае любыя Браты й Сёстры, вітаю Вас: Хрыстос нарадзіўся!

Радаснымі словамі неспадзявана прывітаў ангел пастухоў, абвяшчаючы ім вялікую таямніцу народжаньня Госпада й Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Алé, калі нарадзіўся Хрыстос, дык ангелы сьпявалі: „Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой паміж людзей добрае волі" (Лк. 2:14).

Сёньня не адзін з нас затрымаецца й падумае: а ці ёсьць на зямлі мір, якога кожны з нас так моцна жадае? Так, ёсьць супакой на зямлі, ён у Хрыстовай Царкве, якую збудаваў Сам Хрыстос, каб кожны змог знайсьці ў ёй духовы супакой.

Нам могуць сказаць: „Царква й сама ня мае сёньня супакою. Царква церпіць ад бязбожнікаў перасьледаваньне, зьнявагу, церпіць часамі ўсялякія беды ад авантурнікаў. Гэта так, але гэта ўсё толькі вонкавыя сілы, бо знутра яе ідзе супакой, б'е на паверхню жыцьцятворчая сіла — той Божы мір, — як сьв. ап. Павал кажа: „Мір Божы, які вышэй за ўсякі розум, няхай захавае сэрцы вашыя й думкі вашыя ў Ісусе Хрысьце" (Піл. 4:7).

Сама з таго часу, калі Госпад сказаў „Валадарства маё ня з гэтага сьвету" (Ян 18:36) — аб тым, што Ягонае валадарства духовае, нябеснае, — пачалося зацятае змаганьне з Хрыстом злых людзей за духовую ўладу над думкай, сумленьнем і жаданьнем асобы — чалавека. І сёньня мы бачым, што ў валадарстве Шатана няма любасьці, спагады, міласэрдзя й справядлівасьці, бо ў ім пануе нянавісьць, зайздрасьць, помста й прагавітасьць панаваньня.

Усякія подступы й напады бязбожных сілаў на Хрыстовую Царкву разьбіваюцца аб скалу веры ў Госпада нашага Ісуса Хрыста й любасьці да Яго. Хрыстовая Царква, якую заснаваў Сам Госпад, гэта й ёсьць непарушны мір на зямлі, пра якую сьв. ап. Павал кажа: „Хто адлучыць нас ад любові Божае: гора, ці ўціск, ці перасьледаваньне, ці голад, ці нагата, ці небясьпека, ці меч?" (Рым. 8:35).

Толькі пад аховаю Хрыстовае Царквы кожны чалавек можа быць духова спакойны, пачувацца дзіцём вечнасьці, бязьмежнай славы Божага валадарства.

У дзень народжаньня Хрыста кожны хрысьціянін радуецца й весяліцца. З народжаньнем Хрыста нарадзілася вызваленьне чалавека зь цемры духовай. Ангел Госпадаў бачыў у нованароджаным дзіцяці Хрыста Бога, Збаўцу сьвету, таму ён і весьціў: „Я абвяшчаю вам вялікую радасьць".

Дарагія Браты й Сёстры, справа збаўленьня, выкананая Ісусам Хрыстом у часе Ягонага прабываньня на зямлі, трывае й надалей. Людзі спасаюцца дзеля бязьмежнай любові Сына Божага да нас: грэшнікі памілаваны, нячыстыя ачышчаюцца, слабыя ўзмацняюцца; людзкому сэрцу — сэрца Хрыстовае, недаўгавечнае стаецца несьмяротным, голае й зраненае грахамі ўпрыгожана Боскаю славаю.

Маючы надзею й глыбокую веру, дарагія мае, сустрэнем народжаньне Хрыста з чыстай любоўю й з чыстым сумленьнем, праславім Яго ў нашых сьвятынях шчырымі малітвамі.

Народжаньне Тваё, Хрысьце Божа наш, зазьзяла людзям сьвятло розуму: бо праз яго зоркам служачы, зоркаю навучаныя, Табе пакланяцца, Сонцу праўды, і Цябе пазнаць з вышыні ўсходу, Госпадзе, слава Табе. Амін.

Таронта, Канада
Сьнежань, году Божага 1984

**З ласкі Божае пакорны МІКАЛАЙ,**

**Першы Гіерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.**

### Б О Ж А

*Ларыса Геніюш*

*Божа, малітваў прачыстая мэта,*
*сьветлая, песьняў натхнёных, крыніца,*
*глянь — у адкрытае сэрца паэта*
*б'е бязупынна жыцьцё навальніцай.*

*Сьлёзаў чужых мае поўныя жмені,*
*кроў разьлілася струёю ля весьніц,*
*мушу для іх я ў бязьмерных цярпеньнях*
*выкупіць сілу натхнёнае песьні.*

*І — я слоў пэрлы дастану із тоняў,*
*сэрца у звонкі шнурок іх наніжа,*
*толькі ня дай мне ў крывавае „сёньня"*
*ўпасьці бясьсільна дарогай пад крыжам.*

*Крыж мой аднолькава цяжкі і мілы.*
*З гоняў дзіраваных Яго за субрацьцяў*
*буду ахвярна нясьці да магілы,*
*толькі ня дай мне пад Ім заламацца.*

*Зь ніў я Яго падняла бяз прымусу.*
*Нельга каханьня нат сіламі мерыць . . .*
*Жоўці пякучай налі мне на вусны*
*буду цярпець за Радзіму і верыць.*

*Буду аб долі адкупленай крозіць*
*сяньня цяжкой, непагнутай як камень,*
*буду ісьці па цярністай дарозе,*
*потам змываючы кроў і сьлязамі.*

*Сэрцам натхнёным, Табой абагрэтым*
*дай мне нат з жоўці стварыць асалоду,*
*дай адкупіць мне цярпеньнем паэта*
*волю і долю і шчасьце народу.*

*1945-1947*

### ЗАПРОШАНЬНЯ НА ІНАЎГУРАЦЫЮ

Старшыня Беларуска Амэрыканскае Фэдэрацыі Рэспубліканскіх Клюбаў інж. В. Мельяновіч, старшыня БАЗА сп. А. Шукелайць, сябра рэдкалегіі „Беларуса" др. В. Кіпель, старшыня беларуска-амэрыканскага рэспубліканскага клюбу ў Кліўленьдзе сп. Я. Раковіч ды рад іншых прадстаўнікоў беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў запрошаныя на ўрачыстасьці інаўгурацыі Прэзыдэнта Злучаных Штатаў Рональда Рэйгана, што адбудзецца ў Вашынгтоне 16-20 студзеня 1985 году.

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
**Выходзіць** месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## СУПРАЦОЎНІКІ „БЕЛАРУСА" Ў 1984 ГОДЗЕ

Наступныя асобы й аўтары на працягу 1984 г. прыслалі ў газэту свае артыкулы, карэспандэнцыі, допісы, газэтныя выразкі, прапановы, бралі ўдзел у развозе й рассыланьні газэты, займаліся зборам падпіскі й ахвяраў на „Беларуса":

А. С., Адамовіч Антон, Акула Кастусь, Андрусышын Юрка, Андрусышына Юля, Артон Вера, Арэшка Аляксей.

Б. Г., Б. М., Бартуль Франьцішак, Барэйка Язэп, Бяленіс Антон, Васілеўскі Алесь, Варабей Кастусь, Віценчык Міхась, Вішневіч Язэп, Г. Б., Гавенчык Янка, Гаеўскі Антон, Галішэўскі Андрэй, Грэбень Мікола, Даніловіч Браніслаў, Дубяга Алег, Жук-Грышкевіч Раіса, Жучка Янка.

Загорны Арсень, Залужны Павал, Заморскі Мікалай, Запруднік Вера, Запруднік Янка, Зданковіч А., Золак Янка, Зуброўскі Вітаўт.

Кавыль Міхась, Кажура Пётра, Калодка Аляксандар, Калбаса Янка, Каляда Юрка, Канавалаў Валеры, Каранеўская Марылька, Карніловіч Сяргей, Карповіч Алесь, Касмовіч Д., Каханоўская Яніна, Кіпель Вітаўт, Кіпель Зора, Кіпель Юрка, Крушына Янка.

Латушкін Мікола, Лашук Аляксандар, Лужынскі Міхась.

Мароз А., Архіепіскап Мікалай, Мельяновіч Васіль, Міхалюк Янка, Міцкевіч Алесь, Мярляк Кастусь.

Надсон Аляксандар, Найдзюк Часлаў, Насовіч Аркадзь, Нікан Мікола.

Орса-Рамана Ала. Пляскач Васіль, Полацкі Кастусь, Попка Юры.

Р. В., Рагалевіч-Дутко Ірэна, Раецкі Міхась, Рамук Вера, Рамук Вітаўт, Ролсан Янка, Русак Уладзімер.

Сажыч Язэп, Сільвановіч Алекс, Скабей Мікола, Смага Міхась, Станкевіч Зінаіда, Станкевіч Раіса, Стар Карп, Стаўпіскі М., Стрэчань Андрэй, Сурвіла Івонка, Сурвіла Янка, Сяднёў Масей, Сянькевіч Віктар.

Трысмакоў Парфіры, Тулейка Міхась.

Шукелайць Антон, Шульжыцкая Аляксандра, Шчэцька Васіль.

Ц. Ул., Цярпіцкі Віталі.

Яноўскі Аляксандар, Яр Янка.

Дзякуючы ўсім пералічаным асобам і аўтарам, а таксама дзякуючы ахвярадаўцам і падпішчыкам, „Беларус,, здолеў рэгулярна выходзіць на працягу сёлетняга году.

Шчасьці Божа ўсім нам у Новым Годзе!

**Рэдакцыя „Беларуса"**

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ БАЦЬКОЎ

Ці Вы зварачалі калі-небудзь увагу сваіх дарослых дзяцей на англамоўную старонку „Беларуса"? Ці Вы даведваліся, якая ў іх рэакцыя на прачытанае, ці яны наагул чыталі яе? А гэта-ж для іх яна пішацца! Ці Вы падахвочвалі сваіх адукаваных дзяцей пісаць у англамоўнага „Беларуса"? Калі Ваш сын або дачка жывуць асобна й добра зарабляюць, ці ня думаеце Вы, што яны павінны былі-б падпісацца на „Беларуса" дзеля англамоўнае старонкі? А можа-б Вы ім зрабілі падарунак на цэлы год падпіскаю на газэту?

Памятайце адно: калі Вашыя сын ці дачка дагэтуль ня цікавіліся „Беларусам", дык і надалей яны застануцца абыякавымі да ўсяго, пра што газэта піша, калі Вы іх у гэтым не зацікавіце.

Нацыянальная сьведамасьць ня прыходзіць сама сабой, над ёй трэба працаваць — і перш-наперш у дачыненьні да сваіх дзяцей.

**Рэдакцыя „Беларуса"**

## КУДЫ ЙДЗЕ „РАБОТНІЦА Й СЯЛЯНКА"?

Шэсьцьдзесят гадоў таму, у лістападзе 1924 г., у Менску пачаў выходзіць месячнік, які завецца сёньня „Работніца і сялянка". На сваім пачатку часапіс гэты зваўся паўней і дакладней: „Беларуская работніца і сялянка" — аж да 1931 году.

1930-я гады, як ведама, адзначаліся чысткамі ня толькі радоў кампартыі Савецкага Саюзу ды вясковых хатаў (зь якіх вывозіліся ў Сібір г. зв. „кулакі" й „падкулачнікі"), але й чысткамі нацыянальнае культуры, зь якое выкараняўся г. зв. буржуазны нацыяналізм, а ў тым ліку й прыметнікі „беларускі", „беларуская" зь некаторых назоваў.

У 1931 годзе, прыкладам, **Беларуская** Акадэмія Навукаў сталася Акадэміяй Навукаў **БССР; Беларускае** Дзяржаўнае Выдавецтва — Дзяржаўным Выдавецтвам **Беларусі.** У моц тае самае дэбеларусізацыі і часапіс **„Беларуская** работніца і сялянка" стаўся ўжо часапісам „Работніца і калгасьніца **Беларусі".** У прыметніку „беларуская — беларускае" партыя бальшавікоў адчула зашмат націску на беларускасьць. Нацыянальная адзнака пачала перадавацца ўжо менш эмацыянальным словам, назоўнікам „Беларусь" у родным склоне.

Часапіс „Работніца і калгасьніца Беларусі" дажыў да 1941 году. Ваеннымі гадамі ён ня выходзіў. А калі ў 1946 г. быў адноўлены, дык і „Беларусі" ў ягоным назове ўжо ня стала — да чытачоў у 1946 годзе прыйшла ўжо проста „Работніца і сялянка". Ці беларуская яна, ці савецкая, казаў той — какая разница.

Праўда, мова ў часапісе была ўсё-ж захаваная беларуская. Беларуская яна й дагэтуль. У міжчасе аднак гэткія выданьні таго-ж ЦК кампартыі Беларусі, як часапіс „Камуніст Беларусі", газэта „Калгасная праўда", перайшлі выключна на расейскую мову („Калгасная праўда" й загаловак свой на „Сельскую газету" зьмяніла). А „Работніца і сялянка" ўсё яшчэ трымаецца беларускае мовы. На як доўга? А гэта цяжка сказаць. Але зародак ейнае сьмерці — вірус русыфікацыі — можна бачыць ў дадатку „Бесплатное приложение к журналу ‚Работніца і сялянка'". Дадатак гэты выходзіць даўно. Спачатку ён меў форму адно выкрайкаў для аматараў сампашыву. А цяпер ужо „приложение" пачынае набываць адзнакі часапісу: у ім ужо ня толькі выкрайкі, а й расейскія „песенки", розныя „полезные советы" й падобнае. З траянскага каня „бесплатнаго приложения", як чарвяк, вылазіць палітыка русыфікацыі.

Часапіс „Работніца і сялянка" мае рэкордны тыраж: кожны нумар цяпер выходзіць лікам больш за мілён трыста тысячаў экзэмпляраў. Калі супаставіць з гэтым лікам тыраж папулярнага месячніка „Беларусь" — 13 тысячаў экзэмпляраў (гэта ў сто разоў менш!) — дык аніяк не дасі веры, каб гэтая дыспрапорцыя была натуральнай, бяз штучнага рэгуляваньня яе. Бо аніяк ня скажаш, што часапіс „Беларусь" у сто разоў менш цікавы або ў сто разоў менш патрэбны з прапагандавага гледзішча за „Работніцу і сялянку".

Дык чым тлумачыцца аж гэткая розьніца ў тыражы? Калі нам даводзілася пытацца ў розных людзей „адтуль", дык найчасьцей чуўся адказ, што попыт на „Работніцу і сялянку" тлумачыцца дармовым „приложением". З савецкага афіцыйнага гледзішча тлумачэньне гэткае можа быць вельмі пажаданым: у ім можа хавацца рацыяна元 для пераводу і ўсяго часапісу „Работніца і сялянка" зь ягонае традыцыйнае беларускае мовы на мову таго „бесплатного приложения" — з захаваньнем пры гэтым ягонага звышмілённага тыражу.

**Арсень Загорны**

# РУХ БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Ад Рэдакцыі:** Ніжэй перадрукоўваем першую частку артыкулу, зьмешчанага пад заг. „Дыхаць чыстым паветрам" у часапісе „СУСТРЭЧЫ", які выходзіць у Варшаве ад імя Галоўнай Рады Згуртаваньня Польскіх Студэнтаў. „Сустрэчы" выдаюцца студэнцкімі арганізацыямі нацыянальных меншыняў Польшчы, у тым ліку й беларускай групай студэнтаў. У рэдакцыйную калегію беларускіх „Сустрэчаў" увайшлі: Галіна Максымюк, Іван Максымюк (галоўны рэдактар), Юрка Масеюк, Лёнік Тарасэвіч (галоўны мастак), Андрэй Рубашэўскі, Галіна Турык, Яраслаў Яковіч. Адрыс рэдакцыі: "Spotkania", 00-415 Warszawa, ul. Okrąg 3, Poland.

Артыкул „Дыхаць чыстым паветрам" падпісаны прозьвішчам Івана Максымюка, галоўнага рэдактара „Сустрэчаў".

Інфармацыю пра Агульнапольскую Раду Культуры Студэнтаў Нацыянальных Меншасьцяў, два выпускі „Сустрэчаў" (за 1983 г. і 1984 г.) ды дзейнасьць беларускіх студнэтаў у Польшчы зьмесьцім у наступным нумары „Беларуса".

***

Звыш двух гадоў наглядаецца ў беларускім студэнцкім асяродзьдзі ў Польшчы нейкі ўздым нацыянальнай сьвядомасьці і спробы ператварыць гэты ўнутраны прыплыў энэргіі ў дзейнасьць на карысьць свайму асяродзьдзю ,а таксама і цэлай польскай грамадзкасьці. Як кожны спантанны рух, ён пачаўся больш з эмацыянальных прадпасылак, чым з рацыянальных. Потым ужо прыходзіць разумовае асэнсаваньне зьявы і вызначэньне яе арыентыраў, паводля якіх яна разьвіваецца ў сваёй арганізаванай і кіраванай форме. Думаю, што надыйшоў час, каб, скрывіўшы з натугі пысу, у нейкай ступені спрабаваць даць „ідэялягічную надбудову" гэтаму руху, а прынамся пастарацца ўявіць сабе, які боршч заварыўся і ці варта яго расхлёбваць.

Перш чым пачну натужвацца дзеля гэтае „надбудовы", хачу сказаць, што погляд мой выключна суб'ектыўны і не пасягае на правы стаць поглядам агульным. Як хтосьці разумна сказаў: праўда нараджаецца не ў маналёгу ,а ў размове, тым больш у шматгалосай дыскусіі. Якраз ў „Сустрэчах" бачу месца на шырэйшую размову аб сэнсе арганізаванага беларускага студэнцкага руху ў Польшчы. Гэты артыкул лічу тут першым словам у размове на вышэй згаданую тэму.

У месяцы маі 1981 г. зь ініцыятывы варшаўскага студэнцкага асяродзьдзя Беларусаў заснавалася Беларускае Аб'еднаньне Студэнтаў (менш ці больш вядомы ўсім БАС) (пра БАС гл. „Беларус" №306-307, ліст.-сьнеж. 1982 — рэд. „Б-са"). Ініцыятыва гэтая займела прыхільны водгук у беларускім і люблінскім студэнцкім асяродзьдзях. Паводля прававых палажэньняў таго пэрыяду ня было аніякіх перашкодаў стварыць нацыянальную студэнцкую арганізацыю. Аднак-жа ініцыятыва пацярпела поўнае паражэньне ў сутыкненьні з рэчаіснасьцю жыцьця (чытай таксама: у сутыкненьні зь Міністэрствам Навукі, Вышэйшых Школ і Тэхнікі). БАС ня быў зарэгістраваны як легальная студэнцкая арганізацыя. Я не намерваюся аналізаваць тут прычынаў гэтага паражэньня. Гэта быў першы ўрок для дзеячоў студэнцкага нацыянальнага руху, які наяўна ўсьведаміў ім іхнюю сытуацыю і абмежаваў у нейкай ступені маштабы дзейнасьці. Наколькі — мне цяжка зараз вырашыць. У гісторыі студэнцкага руху ў Народнай Польшчы дагэтуль ня было студэнцкіх нацыянальных арганізацыяў, таму і ня можа быць якогасьці параўнаньня ці гістарычнага аналізу. Усё пачалося ад нулявога ўзроўню.

Ідэя згуртаваньня, афіцыяльнай формы беларускага студэнцкага руху, трывала ўкаранілася ў сьвядомасьці яе пачынальнікаў. Таму і ўзьніклі групы актыўнасьці беларускіх студэнтаў у Варшаве і Беластоку пры новастворанным Згуртаваньні Польскіх Студэнтаў.

Гледзячы з аднаго боку, можна сказаць, што ісьці непрацёртым шляхам ня вельмі лёгка, у дарозе падсьцерагаюць дзеячоў многія неспадзяванкі ды проста цяжкасьці з-за недахопу вопыту. З другога-ж боку існуе як найболей апраўданае спадзяваньне, што беларускія студэнты ў Польшчы змогуць выпрацаваць такую форму дзейнасьці ў студэнцкім асяродзьдзі, якая сапраўды акажацца арыгінальнай і ўзбагаціць намнога карціну грамадзкага жыцьця. Без ацяжараньня традыцыяй, нейкімі перадумовамі і замацаванае канонамі дзейнасьці можа выкрышталізавацца новая і трывалая зьява ў краявідзе грамадзкага і культурнага жыцьця краіны, безь якой у будучыні нельга будзе ўявіць сабе шырэйшай зьявы, што завецца: існаваньне беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы.

Якія мэты ставіць сабе, скажам, Рада Культуры Студэнтаў Беларускай Нацыянальнасьці ў Варшаве ці падобная Рада ў Беластоку? Адказ можа быць просты: трэба пабачыць адпаведнае месца ў статуце Рады і кропка. Мэта там не адна і розныя сродкі яе зьдзяйсьненьня. Думаю аднак-жа, што ў кожнага недзе падсьвядома існуе жаданьне „вышэйшай яснасьці", жаданьне мэты гэтыя ўліць у якуюсьці ўнівэрсальную мэту, якая-б усе намаганьні і зьдзяйсьненьні паасобных „меншых" мэтаў аб'ядноўвала ў адну формулу, як вучоны аб'ядноўвае ў адну формулу шматлікія вопыты і высновы са свае працы. Відавочнай карысьці з гэтага абагульненьня можа зусім і ня быць. Гэта ўжо справа суб'ектыўнага погляду. Каб спрасьціць праблему, адкіньма чыста навуковы яе характар; я не сацыёляг і дзеля ўзбагачэньня грамадзкіх навук гэтае пішу. Мяне цікавіць канкрэтная карысьць з добрага ўсьведамленьня агульнаграмадзкай значнасьці ў актыўнасьці беларускіх студэнтаў. Імкнуся тут далучыць студэнцкі нацыянальны рух да актыўнасьці грамадзтва ў цэлым. Далучэньне такое, калі падмацаванае разумнымі доказамі, можа ў значнай ступені паўплываць на вонкавы як і ўнутраны воблік самога руху — цяпер ужо канчаткова „асэнсаванага" — і можа таксама выпаўніць добра агітацыйную задачу, асабліва сярод тых студэнтаў, якія пакуль што сумляваюцца ў сэньсе дзейнасьці ў студэнцкіх радах. Урэшце-рэшт хачу вывесьці на „истинный путь" усіх тых, што ў студэнцкім беларускім руху вынюхваюць нацыяналістычную падрыўную работу, накіраваную на разбурэньне існуючага дзяржаўнага ладу і саюзу краін сацыялістычнай садружнасьці.

Таму разважаньняў такіх ня лічу пустым словам, а пільна патрэбнай нам справаю.

Праўда пакуль што неабвяргальная: беларуская нацыянальная меншасьць наогул адчувае сябе духоўна адчужанай у сваёй краіне. На гэтую тэму існуе шмат здагадак і меркаваньняў. Адзінага погляду дзеля прычыны (правільней: погляду на прычыну — рэд. „Б-са") таксга становішча няма, бо апрача сукупнасьці лягічных прычынаў існуе і ірацыянальная прымешка. Беларусы ў Польшчы не апынуліся ў выніку нейкага перасяленьня ці дэсанту. Яны жывуць тут спрадвеку, маюць сваю суцэльную этнічную тэрыторыю, маюць свае нацыянальныя, культурныя ці іншыя карані. Гэтага нямала, каб адчуваць сябе паўнапраўнымі грамадзянамі краіны.

Я ведаю, сябры, што карані — гэта ня ўсё. Што патрэбныя сучасныя ўмовы разьвіцьця свае нацыянальнае сьвядомасьці. Разумею вашае абурэньне з прычыны такога пастаўленьня праблемы. Аднак дайце мне працягваць сваю думку. Усяго я не магу адначасова разглядаць. „Сустрэчы" чакаюць на вашы ўласныя назіраньні і пагляды. Пішэце.

(Заканчэньне ў наступным нумары)

## КДБ „ЗНАХОДЗІЦЬ" АГЕНТАЎ ЦРУ

Расейскамоўны „Дасьледніцкі Бюлетэнь" радыястанцыі „Свабода" (РС 185-84) падаў, што ў Архіве Самвыдавецтва, які радыястанцыя зьбірае, дакумэнт № 5218 расказвае ,як агенты савецкага Камітэту Дзяржаўнае Бясьпекі „завэрбавалі" Рамана Якаўлевіча Гудоўскага зь Беларусі (дата нарадж. 1956 г.) працаваць, быццам-бы, для Цэнтральнага Разьведвальнага Ўпраўленьня ЗША (Сы-Ай-Эй). „На працягу двух гадоў, — піша „Бюлетэнь",— Р. Гудоўскі зьбіраў савецкія сакрэтныя дадзеныя ваеннага характару, у тым ліку аб распрацоўваньні хэмічнае зброі ў СССР, з мэтай перадаць іх амэрыканскай разьведцы. Зь ім наладзіў лучнасьць супрацоўнік КДБ, які прадставіўся як агент амэрыканскае разьведкі і ‚завэрбаваў' яго ў агенты ЦРУ. Тэрмін прысуду — 11 гадоў у лягеры суровага рэжыму".

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ВЫДАДЗЕНЫ

Як падала газэта „Літаратура і Мастацтва" (30. XI. 84), выйшла з друку другая кніга пятага, апошняга, тому „Тлумачальнага Слоўніка Беларускае Мовы". У Слоўніку, першы том якога выйшаў у 1977 г., растлумачана 105,056 словаў і фразэалягічных выразаў. Слоўнік, пад агульнай рэдакцыяй акадэміка К. Атраховіча (Кандрата Крапівы), выйшаў у выдавецтве „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя".

## МЕНСКІ ПРАЛЁГ ДА ЗАБОЙСТВА ПРЭЗЫДЭНТА

Ведамы заходня-нямецкі 53-гадовы драматург зь левымі паглядамі Рольф Гохгут (аўтар кантравэрсійнае п'есы 1963 г. „Намесьнік" — пра Папу Пія XII ў часе Другое сусьветнае вайны) напісаў новую п'есу „Юдыта"' (біблейскае імя). П'еса пра замах амэрыканскае журналісткі на жыцьцё прэзыдэнта ў Вашынгтоне, каб забойствам прэзыдэнта не дапусьціць да выбуху плянаванае ім ядзернае вайны ў Эўропе. П'еса „Юдыта" складаецца з пралёгу й чатырох актаў. Дзея пралёгу адбываецца ў акупаваным Немцамі Менску ў 1943 г. і адлюстроўвае забойства Аленай Мазанік нямецкага генэралкамісара Беларусі (Вільгельма Кубэ).

Як падала газэта „Лёс Анджэлес Гэральд Экзамінэр" (28. X. 84), прэм'ера спэктаклю „Юдыта", у ангельскім перакладзе, мае адбыцца ў гор. Глязгаве ў Шатляндыі. Пра паказ п'есы ў Заходняй Нямеччыне ці ў ЗША тымчасам нічога ня ведама.

## КАЛЯНДАР „БЕЛАРУСА"

З гэтым нумарам рассылаецца дадатак да газ. „Беларус" — „Каляндар палітычна-культурных угодкаў на 1985 год". Рэдакцыя газэты дзякуе др. Віктару Сянькевічу за дапамогу гістарычным матар'ялам, а сп. Міхасю Тулейку за графічную працу пры афармленьні календара.

## ДАПАМОГА СУРОДЗІЧАМ У ПОЛЬШЧЫ

Разыграная сёлета на справу дапамогі суродзічам у Польшчы лятарэя дала чыстага прыбытку 1122 даляры. Лятарэйныя білеты набылі й дадатковыя грашовыя ахвяры прыслалі, некаторыя вельмі шчодра, больш за сто асобаў. Былі прысланыя таксама дзьве ахвяры замест кветак на магілу сьв. пам. Галіны Орсы (ад сп-тва Л. і Э. Норыкаў ды сп-тва Ул. і А. Русакоў).

Абмежанае ў газэце месца, нажаль, не дае магчымасьці пералічыць усіх прозьвішчаў ахвярадаўцаў і ўдзельнікаў лятарэі. Але гэта дзякуючы ўсім ім можна было выслаць у Польскую Народную Рэспубліку нашым суродзічам 32 пачкі з вопраткою, 28 пачак з каваю і адзін грашовы пераказ (50 дал.).

Падзякі ад тых, каму дапамога пасланая, ды лісты ад тых, хто яшчэ патрабуе дапамогі, прыходзяць увесь час. Удзячнасьць і спадзяваньні, выказаныя нам суродзічамі з Польшчы, перадаём праз газэту „Беларус" усім тым, хто прыхільна паставіўся да гэтае высакароднае дапамогі сваім людзям..

Вітаем усіх з Новым Годам і зычым ахвярадаўцам далейшага матар'яльнага дастатку й духовага дабрабыту.

Шчыра ўдзячныя

**Юля Андрусышына**
**Ала Орса-Рамана**

## УВАГА!

Асобы, якія дастаюць газэту „Беларус" ад сп. **Б. Даніловіча,** павінны перадаваць падпіску й ахвяры яму, выпісваючы чэкі на ягонае ймя ды перасылаць на ягоны адрыс:

Mr. B. Danilovich
303 Howard Street
New Brunswick, N.J. 08901

**Адміністрацыя „Беларуса"**

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

## КЛІЎЛЕНД, АГАЁ (ЗША)

64-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня, арганізаваныя кліўлендзкім аддзелам Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, адбыліся 25 лістапада. У царкве Жыровіцкае Маці Божае а. Міхась Страпко ў суслужэньні зь Мітр. Прат. Аляксандрам Радэнковічам і ягоным дыяканам Мікалаем адслужылі сьв. Літургію й паніхіду. У часе багаслужбы стаяла ганаровая варта з амэрыканскім і беларускім сьцягамі. У сваёй казані а. Міхась гаварыў аб гэраізьме случчакоў. Прывітаў з угодкамі й а. Аляксандар.



Айцец Міхась Страпко й Мітр. Прат. Аляксандар Радэнковіч з дыяканам Мікалаем у часе багаслужбы. Фота М. Белямука.

Па багаслужбе адбыўся супольны абед. Акадэмію адчыніў кіраўнік вэтэранаў сп. М. Ягаўдзік. На сцэне пры ганаровай варце сп-ні Тацьцяна Кананчук і Оля Лукашэвіч ўсклалі вянок на сымбалічную магілку няведамага жаўнера пад гукі жалобнага маршу „Сьпі пад курганам гэрояў".



Каля сымбалічнай магілы няведамага жаўнера. Фота М. Белямука.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Кастусь Мярляк зь Нью Ёрку. Расказаўшы пра палітычныя й ваенныя падзеі 1920 году, дакладчык падкрэсьліў, што хоць слуцкія паўстанцы, якім неставала зброі й амуніцыі, былі пераможаныя, аднак іхны гэройскі чын зрабіў вялікі ўплыў на далейшы ход беларускага вызвольнага змаганьня, у тым ліку й на ўваход Беларусі ў Аб'еднаныя Нацыі.

Удзельнікаў сьвяткаваньня вітаў Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч. Прамоўца, падзякаваўшы кіраўніцтву вэтэранаў і ўдзельнікам урачыстасьці за належнае адзначэньне ўгодкаў, сказаў, што сёньня Саветы намагаюцца ачарніць гісторыю збройнага змаганьня беларускага народу рознымі абвінавачаньнямі ў калябаранцтве, хочуць запалохаць беларускую палітычную эміграцыю, аднак дарма — беларуская вызвольная справа будзе ісьці наперад.

У мастацкай частцы праграмы выступілі Оля Лукашэвіч і Анатоль Лук'янчык з прыгожым выкананьнем песьні „Слуцкія ткачыхі". Матушка Марыя Войтанка з Дэтройту прачытала верш Я. Купалы „Зваяваным". Жаночы хор „Васілёк" пад акампанімэнт Олі Мак Дэрмат (Дубаневіч) выканаў дзьве песьні. Праграма закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Сёлетнія ўгодкі Слуцкага паўстаньня прайшлі больш урачыста, дзякуючы стараньням вэтэранаў, нашым суродзічам зь Нью Ёрку й Дэтройту, нашым суседзям Украінцам, якія ўзялі ўдзел у сьвяткаваньні, ды нашым ахвярным жанчынам, што шчыра й дружна выканалі свой грамадзкі й патрыятычны абавязак удзелам у рыхтаваньні абеду ды ў мастацкай частцы. Усіх удзельнікаў сьвяткаваньня задзіночваў дух Слуцкіх Гэрояў. **К. П.**

## ТАРОНТА (КАНАДА)

У нядзелю 25 лістапада 1984 г. беларуская грамада Таронта сьвяткавала Дзень Гэрояў і 30-я ўгодкі мясцовае парафіі БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага.

У Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры сабраліся нашы суродзічы з Таронта, Ашавы, Лёндану, Брантфарду, Бэры й іншых ваколічных мястэчак. Сьв. Літургію адслужыў Першы Гіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай, які з прычыны падвойнага сьвята сказаў даўжэйшую казань. Падчас паніхіды за паўшых у змаганьні за незалежнасьць Беларусі сыноў і дачок стаяла вэтэранская варта з канадыйскім і беларускім сьцягамі.

У перапоўненай залі адбыўся абед, добра нарыхтаваны нашымі руплівымі гаспадынямі. Пра Дзень Гэрояў, Слуцкае антыбальшавіцкае паўстаньне гаварыў К. Акула. Ён зьвярнуў асноўную ўвагу на цягласьць і нясупыннасьць нашага змаганьня й на тое, што ня можам пакладаць рук аж да таго часу, „калі аддзелы арміі вольнай Беларускай Народнай Рэспублікі стануць у Менску на Пляцы Волі й па іншых беларускіх гарадох ды вёсках".

Сп. Мікола Ганько, адзін з заснавальнікаў парафіі БАПЦ Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Тароньце, затрымаўся агульна над вялікім значэньнем БАПЦ на эміграцыі, а пасьля больш дакладна прыгадаў гісторыю нашай парафіі, што паўстала ў Тароньце ў 1954 годзе. З пашанай згаданыя былі ўжо адыйшоўшыя ад нас парафіяне, а памяць Алеся Грыцука прысутныя ўшанавалі хвілінай маўчаньня. Была падчыркнутая вялікая ахвярнасьць, надзвычайная вытрывальасьць у працы, поўнае пасьвячаньне Богу й ня толькі нашай парафіі, але й інтарэсам усяе БАПЦ, нашага цяперашняга Першага Гіерарха БАПЦ Архіепіскапа Мікалая.

На прапанову старшыні Парафіяльнае Рады сп. Барыса Кіркі, з прынагодным словам у сувязі зь юбілеем парафіі выступілі ўдзельнікі абеду, у тым ліку і Ўладыка Мікалай. Сьвята скончылася малітвай. **К.**

## ГАЙЛЕНД ПАРК, Н. ДЖ.

Слуцкія ўодкі былі адзначаныя тут супольнымі сіламі ўправы аддзелу Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і БАЗА ў нядзелю 2-га сьнежня.

Як заўсёды, урачыстасьць пачалася багаслужбамі ў царкве Маці Божае Жыровіцкае. Айцец Аляксандар Яноўскі адслужыў літургію, малебен за тых, хто нарадзіўся ў месяцы лістападзе, ды паніхіду па палеглых і памерлых гэроях Беларусі, удзельніках Слуцкага паўстаньня, працаўніках нацыянальнае нівы. На гэтую тэму а. Аляксандар сказаў і прыгожую пропаведзь.

У залі пад царквой адбыўся супольны абед. Адчыніў яго пасьля малітвы кіраўнік вэтэранаў сп. Сяргей Гутырчык. Была прасьпяваная патрыятычная песьня „Беларусь наша Маці-Краіна".

У часе абеду старшыня галоўнае ўправы БАЗА сп. Антон Шукелайць прачытаў рэфэрат на тэму дня. Дакладчык гаварыў аб цэлым радзе збройных паўстаньняў і выяваў супраціву на Беларусі, ад паўстаньня Кастуся Каліноўскага 1863 году да збройнага супраціву калектывізацыі ў заходніх раёнах Беларусі па апошняй вайне.

Я. Запруднік перад тым як прачытаць верш А. Салаўя „Гэроям Бацькаўшчыны" гаварыў пра кадры нацыянальна сьведамае інтэлігенцыі на Бацькаўшчыне, пра вартасную культурна-выдавецкую дзейнасьць.

Удзельнікі сьвяткаваньня падзякавалі воплескамі сп-ням Полі Міроновіч, Але Дубяга й Мальвіне Дубяга за смачныя бліны й мачанку..

**З.**

## НЬЮ ЁРК

Беларуская грамада ў Рычманд Гіле адзначыла ўгодкі Слуцкага паўстаньня ў нядзелю 2-га сьнежня. Ладзіў урачыстасьць ньюёркаўскі аддзел Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. Багаслужбу ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага адправіў а. Усевалад Шэмяціла, хорам кіраваў сп. С. Жамойда.

У залі пад царквою адбылася акадэмія, якую адчыніў сп. К. Мярляк патрыятычнай прамовай. Ушанавалі хвілінай цішыні памяць гэрояў Беларусі.

Сп. Масей Сяднёў прачытаў рэфэрат. Падаўшы асноўныя факты зь гісторыі й палітычных абставінаў Слуцкага паўстаньня, прамоўца адзначыў непакорнасьць духу случчакоў, якія сваім гэройскім актам прадэманстравалі „волю беларускага народу жыць самастойна быць гаспадаром у сваёй хаце".

Свой рэфэрат сп. Сяднёў закончыў словамі:

„Сёньня беларуская нацыя выйшла з катакомбнай, пачатнай, эмбрыянальнай стадыі. Беларусь сёньня выходзіць на міжнародную арэну з патрабаваньнямі да сьвету — пачуць ейны голас, голас случчакоў. Нацыя, якая здольная была ў рэвалюцыйных умовах, наўсуперак варожым сілам узьняць свой голас паўстаць і на аснове свайго гістарычнага дасьветчаньня накрэсьліць, пакласьці падваліны свае дзяржаўнасьці ў форме дэмакратычнае Беларускае Народнае Рэспублікі, — такая нацыя ўжо ня зыйдзе зь гістарычнай арэны. Праз бэсэсэраўскую „сувэрэннасьць", праз „сувэрэннасьць" у ААН яна беларуская нацыя — мы ўпэўненыя — прыйдзе да запраўднай, фактычнай сувэрэннасьці й незалежнасьці".

Пасьля вітаў сход сп. А. Шукелайць, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Па афіцыйнай частцы адбыўся супольны абед.

**В. Ш.**

## МЭЛЬБУРН (АЎСТРАЛІЯ)

Беларускі Цэнтральны Камітэт і парафія БАПЦ у Мэльбурне адзначылі 64-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня ў нядзелю 25-га лістапада. Карыстаючыся добрым надвор'ем, па багаслужбе ў царкве людзі сабраліся на Фоўкэнэрскіх могілках пры беларускім помніку, дзе а. А. Кулакоўскі адслужыў паніхіду.

Папаўдні ў Беларускім Доме адбылася акадэмія, што пачалася аўстралійскім гімнам у выкананьні мяшанага хору пад кіраўніцтвам сп-ні Н. Груша. Сп. У. Сідлярэвіч, старшыня БЦК, адчыніў акадэмію, прачытаў прывітаньні ад Беларускага Вызвольнага Фронту, Беларускай Цэнтральнай Рады, Аб'еднаньня Беларусаў у Паўночнай Аўстраліі ды Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі.

Сп. М. Нікан прывітаў прысутных ад імя Рады БНР, заклікаўшы ўсіх да згоднага супрацоўніцтва на карысьць беларускай справы.

Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. П. Гуз. Дакладчык гаварыў пра збройнае змаганьне Беларусаў у розных пэрыядах. Сп. Сідлярэвіч дапоўніў даклад сваім выступленьнем аб патрэбе актыўнае й ахвярнае грамадзкае працы.

У мастацкай частцы мяшаны хор (жанчыны ў нацыянальнай вопратцы) выканаў тры беларускія песьні. Былі прачытаныя чатыры беларускія вершы (чыталі: сп. П. Гуз, сп. А. Груша й сп. М. Скабей).

Урачыстасьць закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Сп. М. Скабей скарыстаў з нагоды, каб нагадаць прысутным аб Сустрэчы Беларусаў у Адэляйдзе, а таксама аб патрэбе падтрымаць беларускі друк, у тым ліку й газэту „Беларус".

Урачыстасьць завяршылася сяброўскім пачастункам, што прайшоў у добрым настроі.

**М. Н.**

## ЛЁНДАН (АНГЛІЯ)

Акадэмія, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага паўстаньня, ладжаная лёнданскім аддзелам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, адбылася ў нядзелю 2-га сьнежня ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыніў урачыстасьць сп. Я. Сяўковіч, старшыня аддзелу ЗБВБ. Ён падзякаваў а. Аляксандру Надсону за адслужаную ранішнюю багаслужбу, на якой была ўшанаваная памяць удзельнікаў Слуцкага паўстаньня. Быў прачытаны патрыятычны зварот кіраўніка Беларускага Вызвольнага Фронту.

Сп. А. Ражанец прачытаў рэфэрат на тэму дня, шырока прааналізаваўшы зьнішчальную палітыку сталіншчыны, якую яму асабіста давялося перажыць. Сп. А. Зданковіч дапоўніў праграму чытаньнем свайго ўспаміну, прысьвечанага 40-годзьдзю выхаду зь Беларусі.

Айцец Аляксандар пераказаў прывітаньні ад Беларусаў Парыжу, якіх ён коратка перад тым наведаў. Сп. Я Міхалюк падзяліўся ўражаньнямі ад побыту ў Амэрыцы, куды ён езьдзіў на Сустрэчу Беларусаў. Сп. А. Лашук таксама падзяліўся сваймі назіраньнямі па беларускіх асяродках Амэрыкі, пахвальна выказаўся аб дзейнасьці беларускай моладзі.

Адбыўся добра падрыхтаваны сп-няй Г.. Міхалюк пачастунак, што прайшоў у мілай сяброўскай атмасфэры. **А. З.**

*Супрацоўніцу газэты „Беларус", былую сяброўку Галоўнае Ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, журналістку, рэдактара, шматгадовую працаўніцу на ніве беларускага друкаванага слова, дзяячку беларускага жаноцкага руху*

*сп-ню ЗІНАІДУ СТАНКЕВІЧ*

*шчыра вітаем зь 75-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 2 сьнежня сёлета, ды зычым як найлепшага здароўя й плённае працы.*

*Рэдакцыя „Беларуса"*
*Галоўная Ўправа БАЗА*

*Супрацоўніка газэты „Беларус", старшыню ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, шматгадовага працаўніка на грамадзкай і рэлігійнай ніве*

*сп. АЛЯКСАНДРА МІЦКЕВІЧА*

*шчыра вітаем з 65-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 15 лістапада сёлета, ды зычым як найлепшага здароўя й далейшае плённае працы.*

*Рэдакцыя „Беларуса"*
*Галоўная Ўправа БАЗА*

## *УГОДКІ НАРАДЗІНАЎ*

*Сябры-навагрудчане адзначылі ў Нью Ёрку 25 сьнежня сёлета 65-я ўгодкі нарадзінаў др. Уладзімера Набагеза (нар. 20. X.) і сп. Кастуся Мерляка (нар. 25. XII) супольным пачастункам і найлепшымі пажаданьнямі юбілярам.*

*Рэдакцыя „Беларуса" далучаецца да гэтых пажаданьняў ды зычыць абаім сваім прыхільнікам добрага здароўя й плённае працы як у прафэсійным жыцьці, гэтак і на грамадзкай ніве.*

## АРТЫКУЛ А. ЛУЦКЕВІЧА

Выдаваны ў Нью Ёрку расейскамоўны часапіс „Праблемы Ўсходняе Эўропы" (№ 9-10, 1984), ушаноўваючы 100-годзьдзе ад нараджэньня Антона Луцкевіча, перадрукаваў артыкул Антона Луцкевіча (псэўд. Антон Навіна) із зборніка „Формы нацыянальнага руху ў сучасных дзяржавах", выдадзенага ў Пецярбургу ў 1910 годзе. Уступ да артыкулу ў „Праблемах Усходняе Эўропы" напісаў др. Я. Запруднік.

## БІСКУП ТРАСЭВІЧ У НЬЮ ЁРКУ

Біскуп Тарасэвіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў-каталікоў Бізантыйскага абраду, наведаў Беларусаў Нью Ёрку. У нядзелю 9-га сьнежня Ўладыка Ўладзімер адслужыў Сьв. Літургію ў каталіцкай царкве Сьв. Марыі (у Мангатэне, рог 15-й вул. і 2-й авэню). Па багаслужбе адбылося ў прыцаркоўнай залі прыняцьцё, наладжанае сябрамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Ад імя ўдзельнікаў трапезы вітаў Уладыку Ўладзімера сп. Антон Шукелайць. Прамоўца прыгадаў, як на працягу 1950-х гадоў Беларусы-каталікі Нью Ёрку разам з а. Францішкам Чарняўскім стараліся дастаць дазвол на арганізацыю свайго беларускага каталіцкага прыходу ды як з гэтых намаганьняў нічога ня выйшла. Сп. Шукелайць прасіў Біскупа Тарасэвіча дапамагчы Беларусам-каталіком Нью Ёрку й ваколіцаў сваймі захадамі перад царкоўнымі ўладамі ў справе арганізацыі іхнага рэлігійнага жыцьця. **З.**

## „ЗВАЖАЙ" № 4(36) Сьнежань 1984 г.

У нумары: інфармацыя пра Другую Сусьветную Сустрэчу беларускіх вэтэранаў (ілюстраваная); арт. др. В. Сянькевіча „У 190-я ўгодкі антымаскоўскага паўстаньня ў Беларусі" (заканчэньне); інфармацыя пра беларускага перабежчыка ў Афганістане; пасьмяротная згадка пра сьв. пам.. Аляксандра Протаса.

Сёлета часапісу „Зважай" ў лістападзе споўнілася дзесяць гадоў. Газэта „Беларус" шчыра вітае рэдактара й выдаўца часапісу сп. Кастуся Акулу, усіх ягоных супрацоўнікаў ды зычыць далейшых удачаў у добрай справе.

## ДЗЕНЬ УДЗЯЧНАСЬЦІ

Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе таксама й сёлета адзначала амэрыканскае сьвята, Дзень Удзячнасьці. Сьвяткаваньне адбылося 18 лістапада. Адразу па сьв. Літургіі настаяцель М. Страпко адправіў малебен удзячнасьці, у канцы якога сказаў казань на тэму дня, зазначыўшы, што беларуская эміграцыя, падобна да першых пілігрымаў, таксама пакінула Бацькаўшчыну-Беларусь з палітычных і рэлігійных прычынаў.

У царкоўскай залі адбыўся супольны абед, мэню якога складалася зь індыкоў, прыгатаваных паводля амэрыканскае традыцыі, ды розных хатніх печываў. У часе абеду старшыня парахвіяльнае рады С. Карніловіч прывітаў са сьвятам і коратка схарактарызаваў ягонае значэньне, у канцы-ж абеду падзякаваў за прыбыцьцё, а жанчынам за добра падрыхтаваны й наладжаны абед. **К. П.**

# ІЛЬЛЯ КАПІЕВІЧ

**(На 270-я ўгодкі сьмерці)**

Весткі пра жыцьцё й дзейнасьць Ільлі Капіевіча даволі скупыя й супярэчлівыя. Дасюль не ўстаноўленыя дакладна ні час ні месца ягонага нараджэньня. Існуюць нават дзьве розныя формы ягонага прозьвішча: Капіевіч і Капіеўскі. Сам Капіевіч падпісваўся і тым і другім прозьвішчам. Амаль ува ўсіх публікаваных матэрыялах ён выступае як Капіеўскі, а ў выдадзеньных ім лацінскіх і расейскіх граматыках ды ў некаторрых іншых выданьнях — як Капіевіч.

Выказваліся й выказваюцца таксама найбольш разнастайныя меркаваньні што да ягонай нацыянальнай прыналежнасьці. Гэтак, напрыклад ,ведамы расейскі бібліёграф Сопікаў у працы „Опыт Российской Библиографии", выдадзенай у 1813 г., называе Капіевіча „белорусцем"; некаторыя дасьледнікі, як Геннадзі, Пякарскі, Кацпшак, уважаюць Капіевіча за Паляка, а ў францускім „Вялікім гістарычным слоўніку" Марэры ён названы „рускім". Рацыю, бязумоўна, мае Сопікаў. Усе іншыя меркаваньні — вынік блытаніны, што існуе ў галіне беларускай гістарычнай тэрміналёгіі.

Мяркуецца, што Капіевіч нарадзіўся ў 1651 г., паводля адных крыніцаў — на Меншчыне, паводля іншых — на Берасьцейшчыне. „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя", як унівэрсальная, гэтак і Кароткая адзначае толькі, што Капіевіч „нарадзіўся ў Беларусі".

Капіевіч паходзіў зь беларускай праваслаўнай сям'і.

Супярэчлівыя весткі і што да ягонай навукі. Некаторыя аўтары цьвердзяць, што Капіевіч вучыўся ў Магілеўскай беларускай праваслаўнай акадэміі, а пасьля працягваў сваю навуку ў Амстэрдаме ў Галяндыі, дзе перайшоў у пратэстанцтва ды быў нават выбраны за пастыра духоўнае асацыяцыі. Паводля іншых, Капіевіч вучыўся ў Слуцкай гімназіі, перадавой навучальнай установе таго часу на Беларусі, прычым выявіў там вялікія здольнасьці да гуманітарных навукаў і дасягнуў вялікіх посьпехаў у авалоданьні расейскай, нямецкай, і галяндзкай мовамі.

Але зьвернемся крыху да гісторыі Беларусі. Як ведама, другая палова XVII — першая палова XVIII стагодзьдзяў — пэрыяд шматгадовых войнаў на тэрыторыі Беларусі. Першая фаза войнаў зацягнулася ад 1648 да 1667 году. Вайна Рэчы Паспалітай з Маскоўшчынай 1654-1667 гадоў прынесла Вялікаму Княству Літоўскаму страшэнныя спусташэньні. Паводля апісаньняў з 1661 г., цэлы край ляжаў у руінах, спалены і разрабаваны. Маскоўскія і казацкія войскі палілі беларускія гарады й вёскі, асабліва шляхоцкія й дзяржаўныя фальваркі, рабавалі й разганялі сялянства. З гарадоў вывозіліся ў Маскоўшчыну ўсялякія каштоўнасьці, жыхарства, асабліва майстры розных галінаў. Гэтак, прыкладам, паводля некаторых дадзеных, з аднае толькі Магілеўшчыны было вывезена 200 шляхоцкіх сем'яў і каля 12 тысячаў вольнага гарадзкога жыхарства. Сярод іх знаходзіўся і Ільля Капіевіч.

Як ён сам адзначае ў прадмове да кнігі „Краткое собрание Лва Миротворца...", у часе вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўшчынай у 1654-1667 гадох, калі расейскі ваявода Хаванскі адыйшоў із сваім войскам пад Ляхавічы, яго, „малога, 9 год ад роду, украў і завёз з сабою" „баярскі сын зь Бежацкай, гэта значыць з Ноўгарадзкай, пяціны".

Капіевіч быў схоплены й вывезены зь Беларусі ў 1660 годзе. У Расеі ён быў 6 год. У часе мірных перагавораў паміж Расеяй і Рэч Паспалітай ён вярнуўся з Мсьціслаўскім ваяводам Цеханавецкім на бацькаўшчыну, дзе, праўдападобна, паступіў спачатку ў Слуцкую гімназію, а пасьля заканчэньня яе — у Магілеўскую беларускую праваслаўную акадэмію.

Як піша сам Капіевіч, ягоная маемасьць была сканфіскаваная, і ён вымушаны быў пакінуць межы свае краіны. Аднак, як і калі гэта здарылася, застаецца дасюль таямніцай. Вядома толькі, што ў 1697 годзе, калі яму было каля 46 год, ён знаходзіўся ўжо ў Галяндыі ды быў кандыдат-пастырам пры Амстэрдамскім саборы, і што ён хутка выявіў сябе чалавекам высокай, як на той час, навукі.

Расейскі цар Пётр I ў часе свайго падарожжа замяжу ў 1698-99 гадох і свайго знаходжаньня ў Амстэрдаме пазнаёміўся зь Ільлём Капіевічам і атрымаў ад яго надзвычайнае ўражаньне. А паколькі цар у гэным часе падрыхтоўваў у Вялікім Княстве Літоўскім прамаскоўскую партыю, дык ён асабліва зацікавіўся „беларусцам" Капіевічам.

Ільля Капіевіч у Амстэрдаме цікавіўся тады друкарствам, якое ў Галяндыі было вельмі разьвітае і ахапляла кірылічныя друкі. У 1699 годзе Капіевіч выпрацаваў новыя літары згодна зь пісьмовай традыцыяй свае краіны, а пры сустрэчы з царом Пятром I, запрапанаваў яму задуманую рэформу традыцыйнай кірылічнай так званай „рускай" азбукі.

Цар Пётр I падтрымаў Капіевіча ў рэформе і выдаў яму грамату „майстра кнігадрукаваньня", заахвочваючы яго да друкаваньня кніжак новым шрыфтам. У выніку Капіевіч навязаў кантакт з амстэрдамскім друкаром Тэсынгам. У Тэсынгавай друкарні Капіевіч выдаў больш за 20 назваў кніжак і брашураў новым шрыфтам.

У 1700 г. Ільля Капіевіч адкрыў у Амстэрдаме сваю ўласную друкарню зь беларускім шрыфтам і разыйшоўся з Тэсынгам. У сваёй друкарні ён выдаў колькі дапаможнікаў-падручнікаў з розных галінаў веды. Каля 1705 г. ён перабраўся у Гданск, каб у шырэйшым маштабе разгарнуць выдавецкую справу навуковай літаратуры для патрэбаў усходніх славянаў. Аднак гданскі сэнат ня даў яму дазволу на адкрыцьцё друкарні. Тады Капіевіч выехаў у блізкае мястэчка Штольцэнбэрг да друкара Хрыстыяна Гольца ды там вёў далей сваю выдавецкую дзейнасьць у ягонай друкарні. Між іншых кніжак тут ён выдаў лацінска-„рускую" граматыку зь бібліяграфічным паказьнікам сваіх ранейшых друкаў.

У 1969 г. ў архіўным фоньдзе аддзелу Польскай Акадэміі Навукаў у Гданску быў знойдзены адзін экзэмпляр Капіевічавай „Граматыкі" з датай 1705 году. Як у „Граматыцы", гэтак і ў ягоных арыгінальных ды перакладаных творах сустракаецца вялікая колькасьць прыкладаў беларускай гутарковай мовы, факт, на які ў нас дасюль ня была зьвернутая належная ўвага.

У 1709 г. Ільля Капіевіч з дазволу Пятра I перабірецца ў Маскву, каб там заснаваць друкарню зь беларускім кірылічным шрыфтам, якім цікавіўся расейскі цар.

Капіевіч, як Беларус, прасякнуты духам заходняе культуры, быў актыўным прыхільнікам пятроўскіх рэформаў у Расеі. Займаючыся выдавецкай справай, ён імкнуўся прышчапіць народу, асабліва моладзі, любоў да веды, давесьці ёй вялізарную карысьць адукацыі. Ільля Капіевіч уклаў і выдаў першую ў Расеі арытмэтыку, першыя навучальныя дапаможнікі вывучэньня замежных моваў, першы ў расейскай дзяржаве каляндар. Упяршыню ў Расеі Капіевіч ужыцьцявіў пераклад і выдаў у расейскай мове байкі Эзопа. Капіевіч быў перакладчыкам і выдаўцом першай у Расеі кнігі з навігацыі, аўтарам першых друкаваных бібліяграфіяў, выдадзеных для Расеі — слоўнікаў, кнігаў, якія для тагачаснай Расеі былі патрэбныя і якія адыгралі выдатную ролю ў распаўсюджваньні навуковых ведаў і разьвіцьці асьветы.

**Язэп Барэйка**

## МОВА: „ВЕЛІЧ І БАГАЦЬЦЕ"

„Настаўніцкая Газэта" (24. XI. 84, арт. Э. Блінавай і М. Мішчанчука пад заг. „З думкай пра высокі абавязак") падала пра тры кнігі, напісаныя супрацоўнікамі катэдры мовы й літаратуры філялягічнага факультэту Менскага пэдагагічнага інстытуту: дасьледваньне Т. Трыпуцінай пра аналіз слова ў мастацкім тэксьце Янкі Брыля, Н. Гаўрош „Вобразнае азначэньне ў мастацкіх тэкстах. Старонкі слоўніка эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы" ды зборнік артыкулаў „Слова, фразэалягізм, словазлучэньне".

„Аўтараў гэтых кніжак, — піша „Настаўніцкая Газэта", — яднае імкненьне да пошукаў, жаданьне паказаць веліч і багацьце роднай мовы".

Газэта піша, што праца Н. Гаўрош пра эпітэты — першая ў сваім родзе, але ўдалая спроба. „Мы маем цікавае дасьледваньне... Амаль кожны слоўнікавы артыкул аб'ёмны, зьмястоўны, паказвае нявычэрпнае багацьце нашага літаратурнага слова, раскрывае шматгранныя магчымасьці эпітэту ў кантэксьце. Так, да слова АГОНЬ прыводзіцца больш за шэсьць дзесяткаў эпітэтаў, якія характарызуюць яго з розных бакоў — яркасьць, колер, характар гарэньня, адсьвечваньня; уражаньні ад агню; унутраны стан, перажываньні чалавека, пачуцьцё, хваляваньне; цьвіценьне, колер агню, полымя. У слоўніку зьмешчаны два дзесяткі эпітэтаў да словаў БЛЯСК, БОР, ВЕЦЕР, ВОЧЫ, ГОЛАС, ДАРОГА, ДЗЕНЬ, ДОЖДЖ, і інш. Усе разам яны раскрываюць багацьце нашай мовы, паказваць плённасьць ідэйна-мастацкіх пошукаў беларускіх літаратараў. Падобныя працы ня толькі тэарэтычна, але й практычна дапамагаюць нам спасьцігнуць сакрэты мастацкага слова, убачыць, адчуць наватарства пісьменьнікаў, пранікнуцца глыбокай павагай да іх нялёгкай працы".

## САФІЙСКІ САБОР — КАНЦЭРТНАЯ ЗАЛЯ

Як падалі савецкія газэты, у славутым полацкім Сафійскім саборы, рэстаўрацыя якога нядаўна адбылася, пачаліся канцэрты клясычнае музыкі. Літоўскі сьпявак В. Нарэйка, народны артыст СССР, пасьля свайго выступленьня ў Сафійскім саборы сказаў: „Гэта адна зь лепшых канцэртных заляў, у якіх мне даводзілася выступаць". („Зьвязда", 30. XI. 84).

Галоўны адміністратар новае канцэртнае залі М. Маркава, паводля маскоўскае газэты „Советская Культура" (15. XII. 84), сказала: „Мы пастараліся вывучыць густы й патрэбы розных катэгорыяў слухачоў і ў нас, і ў суседнім маладым горадзе Наваполацку, тады распрацавалі колькі абанамэнтных цыкляў канцэртаў: для малодшых і старэйшых школьнікаў, для навучэнцаў, тэхнікумаў ды іншых".

## НАВУКОВЫЯ КАДРЫ БССР

Паводля абсалютнае колькасьці навуковых кадраў, БССР у 1960 г. была (у межах СССР) на сёмым месцы, у 1970 г. — на пятым ,а ў 1982 г. — на трэйцім (пасьля РСФСР і УССР).

Усіх навуковых працаўнікоў у БССР было ў 1960 г. 6 840, у 1970 г. — 21 863, у 1982 г. — 38 963.

Найболып навукоўцаў працуе ў тэхнічных навуках, на другім месцы — навукі фізыка-матэматычныя ,на трэйцім — эканамічныя. У грамадзкіх навуках налічваецца 130 дактароў і 5 247 кандыдатаў.

У 1976 г. сярод вучоных рэспублікі было Беларусаў 48.8%, Расейцаў — 37%, Украінцаў — 6.6%.

Жанчыны складаюць 40% усіх навукоўцаў у БССР.

(Паводля часапісу „Весьці" АН БССР, сэрыя грамадзкіх навукаў, 1984, № 5, б.б. 46, 47).

## СТАТЫСТЫКА ГАЗЭТАЎ БССР

У 1973 г. у Беларускай ССР выходзіла пабеларуску 129 газэтаў, парасейску — 43. Агульны гадавы тыраж беларускамоўных газэтаў у гэным годзе станавіў 271 міліён 442 тысячы экзэмпляраў. Агульны-ж тыраж расейскамоўных газэтаў быў большы — 489 міліёнаў 980 тысячаў экзэмпляраў..

Расейскамоўныя „паралельныя" газэты выдаюцца, як правіла, большым тыражом (прыкладам тыраж „Советской Белоруссии" ў колькі разоў большы за тыраж „Зьвязды", тыраж „Знамя юности" большы за тыраж „Чырвонай зьмены").

У 1982 г. у БССР пабеларуску выходзіла 130 газэтаў, а парасейску — ужо 76. Розьніца агульнагадавога тыражу сталася яшчэ большай. Пабеларуску ўсіх газэтаў у 1982 г. выйшла 257 міліёнаў 661 тысяча экзэмпляраў, а парасейску — 526 міліёнаў 988 тысячаў экзэмпляраў.

Як бачым з гэтых дадзеных, узятых з савецкіх афіцыйных даведнікаў „Печать СССР в 1973 году" і „Печать СССР в 1982 году", агульны тыраж беларускамоўных газэтаў БССР паменшаў за дзевяць гадоў на 13 міліёнаў 781 тысячу экзэмпляраў, а расейскамоўных пабольшаў на 37 міліёнаў 8 тыс. экз.

**Масей Сяднёў**

# РАМАН КОРЗЮК

**(УРЫВАК З РАМАНУ)**

Крытая машына для развозкі хлеба пад'ехала заднім ходам да будынку Юстыцыі на Пляцы Свабоды. Не пасьпела яна спыніцца, як адчыніліся ейныя заднія дзьверы і быў кінуты на тратуар вузенькі трап. Па ім з нутра машыны — адзін за адным — зьбягалі людзі. Здавалося, што „хлебная" машына выплёўвае іх на тратуар. У кожнага зь іх ззаду быў канваір зь вінтоўкай у руках. Ланцужок такім парадкам падвойваўся, і, каб яго ня надта хто прыкмячаў, сьпяшаўся схавацца ў нутры будынку. Пешаходы, затрыманыя ў сваім руху разгрузкай „хлебнай" машыны, на момант спыняліся, прыглядаючыся да „тавару". Зразумеўшы ў чым справа, яны ішлі далей: гэта ім было ня ўпяршыню. Асобы ў цывільным, што стаялі паабапал машыны, ветліва, ціха, амаль шэптам прасілі:

— Грамадзяне, не затрымлівайцеся! Праходзьце! Праходзьце!

„Хлебная" машына — парожняя ўжо — імкліва ад'ехала — ад уваходу у будынак Юстыцыі на Пляцы Свабоды.

Зняволеныя разьмясьціліся на другім паверсе ў моцных, прыкаваных да падлогі, дубовых крэслах — па канваіру ззаду ў кожнага. У кожнага за сьпіной тырчэла вінтоўка з штыхом напагатове.

Група Рамана Корзюка — дванаццаць чалавек — чакала паяўленьня судзьдзяў. Яны неўзабаве зьявіліся і пачулася каманда:

— Суд идет! Встать!

Раман Корзюк пазнаў сярод членаў суда Карпіка, старшыню Спэцыяльнай Калегіі Вярхоўнага Суда БССР, што завочна судзіў ягонага бацьку ў Заслаўі. Адзін з групы — Марціновіч — ад страху страціў прытомнасьць. Канваір вывеў яго пад рукі за дзьверы. Па нейкім часе ён быў прыведзены мэдсястрой і пасаджаны назад ў крэсла.

Суд, пасьля пэрсанальнай праверкі, пачаўся кароткім уступным словам Карпіка. Карпік зазначыў, што справа падсудных, перададзеная сьледчымі органамі суду. досыць ясная і ня выклікае якіх-небудзь асаблівых засьцярогаў. Суд прыняў справу і спадзяецца, што зьняволеныя — у іхных-жа асабістых інтарэсах — будуць супрацоўнічаць зь Вярхоўным Судом, як яны, зрэшты, супрацоўнічалі і з сьледчымі органамі.

Карпік даў слова пракурору. Узьняўся высокага росту, выцьвілы, сухі, як мумія, чалавек. Здавалася, ён быў зьлеплены з шэрага пяску і трымаўся толькі на нейкім нявідочным шпяні. Пракурор глядзеў не на зьняволеных, што сядзелі перад ім унізе, а на ўзьнятыя штыхі канваіраў.

— Незразумела! — пачаў ён. — Абсалютна незразумела, як савецкі студэнт можа трапіць на лаву падсудных? Як савецкі студэнт адважыўся стаць на бок нашага ворага? Як савецкі студэнт — не які-небудзь сын нэпмана ці сын зь ліку „былых людзей" (зь імі мы скончылі), а сын селяніна-бедняка, сын пралетарыя паддаўся на вудачку засланых да нас шпіёнаў і дывэрсантаў? Вы, студэнты савецкай вышэйшай навучальнай установы, на якіх нашая дзяржава траціць столькі сродкаў, як вы дакаціліся да таго што, вас трэба было арыштоўваць, пайсьці на радыкальны крок, каб спыніць вашае спаўзаньне ў кантррэвалюцыйную багну. Вы ўсё без малога — выпускнікі, вас, як выкладчыкаў чакалі рашчыненыя для вас дзьверы дзесяцігодак, тэхнікумаў, інстытутаў. Скажу адкрыта. мы доўга прыглядаліся да вас. Мы напачатку не зьвярталі асаблівай ўвагі на вашыя дробныя грахі й прадзелкі. Мы рабілі ськідку на вашую маладосьць. Мы шмат чаго даравалі вам. Думалі — паразумнееце, пасталееце. Чаго вам не хапала? Вы ўспрыймалі самую гуманную навуку, мы забясьпячалі вас усім, што патрэбна для вашага гарманійнага разьвіцьця. А вы? Вы самі сабе сапсавалі кар'еру. Вашыя бацькі чакалі ад вас ня гэткага во.

Пракурор, чалавек як зь пяску, граў на пачуцьцях падсудных. Ён імкнуўся прамовіць да іх, як бацька, каб рашчуліць іх. Пракурор лічыў сябе псыхолягам.Ён спадзяваўся, што іхная душа ня выстаіць, аслабне і можа нават праліцца сьлязамі. І яно так сталася: не адзін з арыштаваных прызнаваўся ў душы, што пракурор гаворыць праўду, глядзі во спачувае ім, разумее іх, нават абараняе іх. Ці-ж тут ня нашая віна сапраўды? Душа паддавалася жалю й смутку, гатовая каяцца.

Ды хутка „бацькоўскае" слова зьмянілася на пракурорскае.

— Мы шмат, кажу, даравалі вам. Але вы пераступілі мяжу, мяжу нашага цярпеньня, мяжу, за якой — вы самі таго захацелі — вас ужо ня будзе. Мы ўжылі мэтад сацыяльнай прафілактыкі, каб адгарадзіць вас ад грамадзтва. І ня толькі адгарадзіць, а — калі спатрэбіцца — і... зьнішчыць. Вам хіба вядомая формула пралетарскай законнасьці: калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць. Мы папераджалі вас кінуць гульню ў контррэвалюцыю, у якой-бы форме яна ні выяўлялася — у форме нацыяналістычных праяваў, у форме зьедлівага камэнтара на нашу сацыялістычную рэальнасьць, у форме кпінаў над нашымі найвышэйшымі кіраўнікамі, у форме сваёй нейкай адасобленасьці ад грамадзтва, у форме такой нявіннай на першы пагляд рэчы, як іронія. У вас — невядома, адкуль — зьявілася пагарда да ўсяго савецкага. Скажу адкрыта — нават і за ўсім гэтым мы назіралі з вытрымкай, не чапалі вас, прыглядаліся — куды гэта ўсё вас прывядзе. І яно вось прывяло. Прывяло да таго, што вы апынуліся ўжо ў арганізацыі — кантррэвалюцыйнай, антысавецкай арганізацыі, што ў асобе сваіх кіраўнікоў — падумаць толькі! — наладзіла кантакты з замежнымі, варожымі нам разьведкамі, якія і падбухторваюць вас на злачынныя дзеяньні, аж да перавароту ўсталенага ў нас дзяржаўнага ладу. Вы дайшлі да таго, што вам ужо давай аддзяленьне рэспублікі ад Саюзу, давай незалежную Беларусь. Канешне-ж, панская Польшча ня супраць займець і другую частку Беларусі. І што-б вы тады атрымалі? Я добры прарок — Лукішкі. А фашысцкая Нямеччына? Яна гатовая на каго хочаш апірацца, каб паняволіць і зьнішчыць нас. На вас, беларускіх нацыяналістаў, яна разьлічвае таксама. Дык вы, нарэшце, усьведамляеце сваю агідную здраду? Вялікае злачынства цяжыць над вамі. Вялікая кара зьвісае над вамі. І вам ад яе ня ўхіліцца. Вярхоўны Суд — правамоцны судзьдзя народны — ня турбуйцеся — ацэніць кожнага з вас па заслугах.

Зьняволеныя — прыбітыя — сядзелі, замёршы. Яны страцілі дух свой. Яны самавыключыліся і не маглі думаць. Іх — як ня было. Іхныя рэчы, кінутыя пад сьцяной ля дзьвярэй — ватоўкі, мяшэчкі, розная дробязь, што назбіралася за год сядзеньня — сьветчылі пра незайздроснае палажэньне іхных уладальнікаў, здавалася — яны баяліся быць пакінутымі, сьцішна ляжалі ў чаканьні.

Пачаўся разгляд справаў. Пачалі ня з Корзюка, а з Каплеўскага — найслабейшага характарам.

— Падсудны Каплеўскі! — зьвярнуўся старэйшы векам член Калегіі. — Прызнаяцё сябе вінаватым?

Каплеўскі вагаўся з адказам. Стаяў у нерашучасьці. Ён баяўся даваць адмоўны адказ, думаў — горш будзе. Вырашыў прызнавацца.

— Так, прызнаю.

— Значыцца, пацьвярджаеце факт сваёй прыналежнасьці да нацдэмаўскай групы ў Вышэйшым Пэдагагічным Інстытуце (ВПІ) у Менску? Зрэшты, гэта пагаджаецца і з вашымі папярэднімі паказаньнямі на допытах. — Хто яшчэ, апрача вас. належаў да вашай групы?

Каплеўскі, азіраючыся на сваіх таварышаў:

— Усе... хто тут.

Ён сказаў гэта нясьмела, відавочна, баючыся сваіх сяброў. Член суда, заўважыўшы гэта, пасьпяшаўся загадаць яму сесьці. Выклікаў сьветку.

### ПАДЗЯКА

Ня могучы асабіста падзякаваць за маральную й матарыяльную падтрымку ў нашым няшчасьці з прычыны адыходу ў вечнасьць нашага мужа й бацькі а. Аўгена Смаршчка, гэтым выказваем усім сурсдзічам шчырую падзяку.

**Зоя Смаршчок**
**з сынамі й нявесткай**

### З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Штагоду ад пачатку чырвеня й да канца кастрычніка ў грамадзкім цэнтры „Полацак" у Кліўленьдзе трывае сэзон пікнікаў, якія ладзяцца кожнае нядзелі за выняткам сьвятаў, калі імпрэзы ладзяцца ў царкоўнай залі. Пікнікі ладзіць Камітэт Грамадзкага Цэнтру або, раз у сэзоне, арганізацыі беларускае калёніі: парафія Жыровіцкае Божае Маці, аддзелы БАЗА, арганізацыяў моладзі, вэтэранаў, жанчынаў, Рэспубліканскі Клюб. Пачынаюцца пікнікі адразу па багаслужбе й трываюць да 8-ай гадзіны вечара. У праграме іх — абед, рыхтаваны пачарзе жанчынамі, гутаркі, народныя песьні. Моладзь займаецца спортам, плаваньнем на лодках. Хоры царкоўны й жаночы выкарыстоўваюць гэтыя нагоды й ладзяць сьпеўкі, а іншыя камітэты робяць паседжаньні. Усё гэта дае добрую магчымасьць жыхаром беларускае калёніі правесьці весела й прыемна час на сьвежым паветры ў сваім асяродзьдзі.

Зачыненьне сэзону пікнікаў сёлета адбылося 21 кастрычніка й прайшло больш урачыста супраць папярэдніх гадоў. Ураньні адбылася багаслужба ў залі „Полацку", пасьля чаго пачаўся пікнік. Мэню абеду складалася са смажанае сьвіньні, якую круціў на агні экспэрт Андрэй Стрэчань з заступнікам Янкам Ханенкам, бульбяных бліноў, галубцоў ды розных смачных печываў, нарыхтаваных жанчынамі. Асабліваю тэмаю гутаркі былі ўспаміны з 16-ае Сустрэчы Беларусаў, што адбылася сёлета ў верасьні на „Полацку". На ўрачыстасьць зачыненьня сэзону сабралася шмат людзей, былі прадстаўнікі з-за акіяну: з Англіі сп. Лашук, сп. Лішчонак зь сябрам з Канады, др. Сажыч і др. Бакуновіч з Дэтройту, кліўлендзкія Славакі і Украінцы. Сэзон закончыўся ў вясёлым настроі позна ўвечары й даў добрыя вынікі.

**К. П.**

## З ПОШТЫ „БЕЛАРУСА"

**Бібліятэка Гарвардзкага У-ту** папрасіла прыслаць ёй нумары „Беларуса", якіх у яе неставала..

**Бібліятэка Інстытуту Славянаведы Польскае Акадэміі Навук** пакцітавала атрыманьне нумароў 315-320 „Беларуса", узамен за якога высылае нумары 7-46 газэты „Ніва", выдаванае ў Беластоку.

**Сп. Янка Калбаса** з Брадфарду (Англія) прыслаў „Асьветчаньне", у якім кажа, што ён „ніколі ня зьбіраў грошай на выдачу памятковага шчытка для ўдзельнікаў Першае Сусьветнае Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў" (сутрэча адбылася ў жніўні 1974 г.) і дзеля гэтага абвінавачаньне яго часапісам „Зважай" у прысабечаньні сабраных грошай „беспадстаўнае й крыўднае".

**Сп. Міхась Белямук** у лісьце да рэдактара піша, што тэрмін „ярылаўскі крыж" ужываецца ў нас няправільна — трэба пісаць „крыж гэрбу Пагоня" або „Еўфрасінеўскі крыж гэральдычнай формы". На гэтую тэму сп. Белямук выказаўся крыху ў часапісе „Беларускі Сьвет" (нр. 16, б.б. 70-71).

**Сп. А. Асінчык** піша ў лісьце аб патрэбе належна ўшанаваць 1000-годзьдзе хрысьціянства на Беларусі, што будзе адзначацца ў 1988 годзе, раіць узьняць гэтую тэму на старонках „Беларуса" ды прысьпешыць справу выданьня юбілейнага календара. Дарэчы, інтэнсыўна пачаў займацца гэтай тэмай савецкі друк.

Газэта „Беларус" будзе пісаць пра 1000-годзьдзе хрысьціянізацыі Беларусі ды запрашае сваіх чытачоў выказвацца на гтэую тэму.

**Сп. В.Мельяновіч, др. В. Рамук і сп. Ч. Найдзюк** прыслалі ў рэдакцыю „Беларуса" газэтныя выразкі за што вельмі дзякуем.

**Чытайце, выпісвайце,**
**пашырайце газэту Беларусаў**
**у Вольным Сьвеце**
**„Б Е Л А Р У С"**

### КНІГА ПРА КАЛЯБАРАНЦТВА ЗЬ НЕМЦАМІ

У ЗША выйшла з друку кніга Алэна Раена пад заг. „Ціхія суседзі". У ёй апісваецца дзейнасьць „ваенных злачынцаў", што па вайне пасяліліся ў Амэрыцы, і справа судовага перасьледу іх у Амэрыцы. Аўтар кнігі ад 1979 г. па 1983-ці быў начальнікам Аддзелу Адмысловага Расьследваньня пры Міністэрстве Юстыцыі ЗША. Адным з Раенавых падначаленых быў Джон Лофтус, які напісаў кніжку „Беларускі сакрэт". Паказальна, што ў Раенавай кнізе ня згадваецца ніводнага прозьвішча „калябарантаў", названых у Лофтусавай кнізе. Наагул Беларусь у кнізе Раена згадваецца толькі двойчы, але абодвы разы не як край „калябарантаў", а як край, у якім іншыя „калябаранты" (Лятувісы) праводзілі сваю дзейнасьць.

Больш пра Раенаву й Лофтусаву кнігі — у наступным нумары „Беларуса".

Аддзел Адмысловага Расьследваньня тымчасам дзеіць далей. Як падала газэта „Нью Ёрк Таймс" 23 сьнежня сёлета, з Амэрыкі былі апошнім часам дэпартаваныя за прыхаваньне свае мінуўшчыны і фальсыфікацыю дакумэнтаў пры ўезьдзе ў Злучаныя Штаты шэсьць асобаў, у тым ліку Фёдар Федарэнка (які згадзіўся выехаць у СССР), Архіепіскап Валерыян Трыфа ды Джон Аўдзей.

### АЖЫЎЛЕНЬНЕ МОВЫ

„У апошнія дзесяцігодзьдзі (у Гомелі) назіраецца павышэньне распаўсюджаньня беларускай мовы ў якасьці роднай і другой, якой свабодна валодаюць. Сёньня яе percentage... 

Сёньня яе перапісны працэнт у Гомелі — адзін з найвышэйшых сярод буйных гарадоў Беларусі. Прычынамі гэтага, на наш погляд, зьяўляюцца рост сельскай міграцыі ў горад, тым больш што ў 1954 г. да Гомельскай былі далучаны Палеская вобласьць і некаторыя раёны Бабруйскай, насельніцтва якіх пачало прыцягвацца да новага абласнога цэнтру; увахоџаньне ў склад гораду некаторых сельскіх населеных пунктаў; наяўнасьць у Гомельскім унівэрсытэце аддзяленьня беларускай мовы і літаратуры; выкладаньне беларускай мовы ў сярэдніх навучальных установах; агульны рост павагі да беларускай мовы як да мовы рэспублікі. Між тым трэба заўважыць, што ўжываньне беларускай мовы ў горадзе пераважна пасыўнае, актыўнае назіраецца радзей".

Н. А. Балоціна, „Вытокі этналінгвістычнай сытуацыі шматмоўнага гораду Ўсходняй Беларусі (на прыкладзе гор. Гомеля)", **Весьці АН БССР**, сэрыя грамадзкіх навукаў, 1984, № 5, б. 98..

### ЗАГАДКАВАЯ СЬМЕРЦЬ САВЕЦКІХ АЛІМПІЙЦАЎ

Як падала ўкраінская прэсавая служба „Смолоскып" (Зьніч) на прэсканфэрэнцыі ў Лёс Анджэлесе у часе летніх Алімпійскіх гульняў, а таксама ў сваім англамоўным выданьні „Смолоскып" (№ 25, восень 1984 г.), сярод савецкіх спартсмэнаў, што бралі ўдзел у ўсіх дасюлешніх Алімпійскіх гульнях, назіраецца нязвычайна высокая ступень перадчаснае сьмяротнасьці. У пэрыядзе-ж 1976-82 гадоў сьмяротнасьць гэтая рэзка пайшла ўгару, падвысілася супраць папярэдніх гадоў на 400%. Сьмяротнасьць амэрыканскіх алімпійцаў за гэты самы час узрасла адно на 9%.

„Смолоскып" дастаў з Савецкага Саюзу сьпіс атлетаў-алімпійцаў, што перадчасна памерлі ў выніку, як прыпушчаюць, шырокага ўжываньня наркотыкаў і фізіялягічнага экспэрымэнтаваньня. Усіх на сьпісе 59 прозьвішчаў, сярод якіх ёсьць і спартсмэны-Беларусы. Вось яны:

**Гэрман Бокун**, удзельнік XV-й Алімпіяды ў фэхтаваньні. Нарадзіўся ў 1927 г., памёр у 1978 годзе.

**Уладзімер Булатаў**, заняў 9-ае месца ў лёгкай атлетыцы на XVI-й Алімпіядзе. Нар. ў 1929 г., памёр ў 1976 г.

**Алег Караваеў**, здабыў залаты мэдаль на XVI-й Алімпіядзе ў дужаньні. Нарадзіўся 20. V. 1927 г., памёр 23. VIII. 1978 г.

**Аляксей Ніканчыкаў**, здабыў срэбраны мэдаль на XIX-й Алімпіядзе ў фэхтаваньні. Нар. 30. VII. 1940 г., памёр 28. I.. 1972 г.

**Аляксандар Паўлоўскі**, здабыў бронзавы мэдаль на XVII-й Алімпіядзе ў фэхтаваньні. Нар. 14. VII. 1936 г., памёр у 1977 г.

**Валеры Папенчанка**, здабыў залаты мэдаль на XVIII-й Алімпіядзе ў боксе. Нар. 26. VIII. 1937 г., памёр 15. II. 1975 г.

Хоць на сьпісе 59-х ёсьць прозьвішчы асобаў, пра якіх ведама, што беспасярэдняй прычынай іхнае сьмерці былі аўтамабільныя аварыі ды іншае, усё-ж высокая сьмяротнасьць савецкіх алімпійцаў у маладым веку выклікае моцнае падозраньне ўва ўжываньні наркотыкаў ды фізіялягічным экспэрымэнтаваньні, каб забясьпечыць Савецкаму Саюзу патрэбны прапагандавы матар'ял (максымум алімпійскіх мэдалёў).

## СЬВ. ПАМ. НАДЗЯ БАРАНОВІЧ

Ах, якое кволае крохкае й няпэўнае жыцьцё людзкое!

Зусім неспадзявана дагарэла да канца сьвечка жыцьця нашай дарагой жонкі, маці й сяброўкі Надзі Барановіч.



Блізу 9 гадоў яна стойка змагалася з жахлівай хваробай, якая ўпарта й пасьлядоўна адбірала ад яе здольнасьць кіраваць целам.

Жыцьцёвы шлях Надзі далёка ня быў высланы кветкамі. Нарадзілася яна 27 студзеня 1917 г. ў Смаленшчыне ў „бежанстве". Па Першай сусьветнай вайне сям'я Гобрыкаў вярнулася да сваіх Барановічаў, да свае хаты, зямлі й гаспадаркі. Тут Надзя й вырасла, атрымала асьвету ды ў 1943 г. выйшла замуж за былога савецкага юрысконсуля Уладзімера Ганчарова.

У 1944 г. ейны муж Уладзімер загінуў у змаганьні супраць навалы з усходу ў раёне Млавы (паўночная Польшча). З нованароджаным сыночкам і сястрой Пэлягіяй, Надзя мусіла ўцякаць на захад ад наступаючай Чырвонай арміі.

У лягерох Нямеччыны ўцекачы галадалі. Для груднога дзіцяці ня было ні малака, ні хлеба. Надзя занядужала й часта мела высокую гарачку. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, як і тысячы нашых суродзічаў, Надзя жыла ў лягерох УНРА, а пасьля IPO.

У 1950 г. Надзя прыбыла ў гасьцінную Канаду. Эміграцыйныя ўлады накіравалі яе на працу ў Атаве, ў якасьці служанкі ў багатай сям'і, дзе ёй з малым дзіцём давялося ня соладка.

Адбыўшы свой кантракт, Надзя зь сямігадовым сынам прыехала ў Таронта. Тут неўзабаве выйшла замуж (8 студзеня 1951 г.).

Як у сямейным, так і ў грамадзкім жыцьці Нябожчыца бескарысьліва давала сваё каханьне й шмат энэргіі.

З глыбокім болем адчуваем вялізарную страту дарагой і незаступнай для нас Жонкі й Маці, якая памерла 10 лістапада 1984 г. ў Аўроры, недалёка ад Таронта й была там пахаваная.

Молім Усемагутнага Госпада Бога, каб прыняў яе добрую душу й меў яе ў Сваёй ласкавай апецы на векі вякоў.

**Муж Гэнрык і дзеці:**
**Уладзімер, Адвард і Гэля**

## СЬВ. † ПАМ.
## а. АЎГЕН СМАРШЧОК

патрыёт, грамадзкі працаўнік, сябра Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, памёр 5 кастрычніка 1984 г. ў Бэльгіі, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць

**Прэзыдыюм і Сакратарыят**
**Рады БНР**

## СЬВ. † ПАМ.
## АНАТОЛЬ КОМАР

інжынер-вынаходнік, грамадзкі й палітычны дзеяч, памёр у старым веку ў Канадзе ,аб чым з сумам паведамляюць

**Сябры й супрацоўнікі**

## СЬВ. † ПАМ.
## ВАСІЛЬ ДУРЭЙКА

Нарадзіўся 15 сьнежня 1919 г. ў Вялейскім раёне, адыйшоў на вечны супачынак 15 верасьня 1984 г. ў Кліўленьдзе, ЗША, пра што з глыбокім сумам паведамляюць

**Сын Уладзімір і дачка Галіна**

## СЬВ. ПАМ. ВАСІЛЬ ДУРЭЙКА

Васіль Дурэйка нарадзіўся 15 сьнежня 1919 г. ў Вялейскім раёне. Адыйшоў на вечны супачынак 15 верасьня 1984 г. хутка пасьля апэрацыі сэрца. Перад вайною В. Дурэйка служыў у польскім войску як парашутыст. Па заняцьці Заходняе



Беларусі Саветамі ў 1939 г. быў узяты ў палон і вывезены ў Сібір. Калі пачалася вайна зь Нямеччынай у 1941 г., Нябожчык залічыўся ў польскае войска, якое арганізавалася ў Казахстане ў 1942 г. пад вялікабрытанскаю камандаю. Пазьней гэтае войска было перавезенае праз Іран, Ірак, Палестыну, Эпітет у Англію, дзе сьв. пам. Дурэйка прайшоў школу парашутыстаў. У верасьні 1944 г. быў высаджаны з польскаю брыгадаю ў Галяндыі, якая ўзяла вялікі ўдзел у баі супраць Немцаў пад Арнгаймам, дзе быў ранены. Нябожчык быў капралям у парашутнай брыгадзе й быў узнагароджаны крыжамі й мэдалямі за гэраізм у змаганьні.

Па вайне затрымаўся ў Ангельшчыне ў Манчэстары ,дзе ажаніўся з Марыяй і меў двое дзяцей, Уладзіміра й Галіну. Браў актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці, належаў да Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, належаў да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й падтрымоўваў іншыя грамадзкія мерапрыёмствы, ладжаныя ў Англіі..

У 1962 г. перабраўся зь сямёю ў ЗША ды пасяліўся ў Кліўленьдзе, Агаё, дзе пражыў да канца свайго жыцьця. Вялікую актыўнасьць Нябожчык праявіў тут у парафіі Жыровіцкае Божае Маці як наведваньнем багаслужбаў, так і працай. Належаў да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, грамадзкага цэнтру „Полацак" ды наагул актыўна падтрымваў арганізацыйную дзейнасьць беларускае калёніі ў Кліўленьдзе. У сямейным жыцьці быў добрым бацькам, дбаў пра дзяцей, іхны дабрабыт і дачакаўся чатырох унукаў.

На разьвітаньне зь Нябожчыкам сабралася шмат людзей. Пахавалі сьв. пам. Васіля Дурэйку, як заслужанага вайскоўца й змагара. Спачыў ён на беларускай сэкцыі Рывэрсайдзкага магільніка ў Кліўленьдзе.

Няхай яму будзе лёгкай амэрыканская зямля, няхай сьняцца яму родныя нівы Вялейшчыны.

**Супрацоўнік**

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ РОК-МУЗЫКУ

„Слова не верабей..." — гэтак загаловіў Дзьмітры Падбярэскі свае разважаньні ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 21-га сьнежня пра „тэксты некаторых вакальна-інструмэнтальных кампазыцый". Аўтар адзначае, што рок-музыка сёньня на Беларусі сталася „своеасаблівай разнавіднасьцяй фальклёрнай творчасьці нашага часу". Але-ж, у фальклярызацыі рок-музыкі сумлявацца не даводзіцца. Пра гэта ці не найкраснамоўней сьветчыць паток інфармацыйнага й дыскусійнага матар'ялу, якім поўняцца цяпер старонкі савецкага маладзежнага друку (камсамольскага, зазначма).

Вартаўнікі афіцыйнае ідэялёгіі з камітэту партыі хацелі-б ня знацьня ведаць гэтае рок-музычнае тэмы, што налынула з Захаду ў край савецкага „разьвітага сацыялізму". Але што ты зробіш, калі моладзь ува ўсе канцы прагне гэтае музыкі, проста дыхае ёю. І ў сувязі з гэтым „ЛіМ" добра робіць, што на сваіх старонках ўздымае праблему тэкстаў вакальна - інструмэнтальных кампазыцыяў. У праблеме гэтай, бязумоўна, шмат аспэктаў, больш важных, менш важных. Але няма важнейшага й трывожнейшага за блізу поўную адсутнасьць, як выглядае, беларускае мовы ў працэсе ўсяе гэтае спантаннае вакальнаінструмэнтальнае творчасьці. Ёсьць, пэўна-ж, ансамбль „Песьняроў" ды магчыма яшчэ сякая-такая група рок-музыкаў, якая можа мець у сваім рэпэртуары нешта беларускамоўнае. Але, як выглядае, з артыкулу таго-ж Падбярэскага ў ЛіМе ды зь іншых савецкіх публікацыяў, беларуская мова не заняла яшчэ навет сьціплага месца ў гэтай новай форме гарадзкога музычнага фальклёру нашых дзён. У прыкладах зь песенных тэкстаў, якімі Дзьмітры Падбярэскі ілюструе свае выказваньні, пануе суцэльна расейская мова.

І дзеля гэтага, калі Падбярэскі піша, што „мы можам заплюшчваць вочы на паэтычную недасканаласьць тэкстаў, але вось не зважаць на элемэнтарную іх няпісьменнасьць ніяк нельга", дык паняцьце „няпісьменнасьці" тут трэба разумець вельмі шырака. Трэба бачыць у гэтым ня толькі няпісьменнасьць граматычную ці паэтычную, але й нацыянальную, гэта значыцца няздольнасьць маладога пакаленьня Беларусі выказацца на сучаснай эстрадзе ў сваёй нацыянальнай мове.

З гледзішча інтарэсаў разьвіцьця беларускае культуры гэта зьява, бясспрэчна, адмоўная з элемэнтамі нацыянальнае трагедыі. Чаму „з элемэнтамі"? А таму, што ёсьць яшчэ надзея, што сьледам за расейскамоўнымі тэкстамі пачнуць зьяўляцца і беларускія песьні рок-музычнае эстрады (і, трэба спадзявацца, пачнуць зьяўляцца ў больш пісьменным выглядзе, як дасюлешнія прымітывы, пра якія піша Падбярэскі. Вось, прыкладам, пехаў-жа біг-бэнд навучэнцаў і выкладчыкаў эстраднага аддзяленьня Менскага музычнага вучылішча ў Ленінград з джазавым афармленьнем песьні Ігара Лучанка „Мой родны кут" і ўдала выступіў там з гэтай песьняй (як, пэўна-ж, і зь іншымі нумарамі свае праграмы), пра што расказаў той-жа Дзьмітры Падбярэскі ў газэце „Чырвоная зьмена" (19. XII. 84). Але гэта — кропля ў моры.

На сёньня праблема „элемэнтарнае няпісьменнасьці" ўсяе беларускае эстрады, а найбольш вакальнаінструмэнтальных ансамбляў, выяўляецца перш-наперш у тым, што ансамблі гэтыя няпісьменныя пабеларуску.

**Арсень Загорны**



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР*
*АЗАРКА МАРЫЯ, ЯНКА й ІРЭНА*
*АЗАРКА НОНА й ЮРКА*
*АКУЛА НАДЗЕЯ, КАСТУСЬ, ЮРКА й АЛЬГЕРД*
*АНДРУСЫШЫН ЮЛЯ, ПАВАЛ, ЮРКА і ДАНЧЫК*
*БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА*
*БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА й МІТРАФАН і ДЗЕЦІ ЖОРЖ, ПЕТРА й ЛАРЫСА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ГАВЕНЧЫК ЯНКА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ*
*ГРЫЦАЙ ЛІЗА й ЯКАЎ і ДЗЕЦІ*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДУБОВІК ЛАРЫСА й АЎГЕН з СЫНАМІ ЭРЫКАМ і АЛЕКСАМ*
*ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА*
*ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА й ВІТАЛЬ, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ зь СЕМ'ЯМІ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЕТРА й АЛЬГЕРД*
*КАЛОША КАНСТАНТЫН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ МАРЫЛЬКА й СЬВЯТАСЛАЎ*
*КАРАНЕЎСКАЯ СТЭФА, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАЧАН ВОЛЬГА, СЫН ЮРКА й НЯВЕСТКА ЮАННА*
*КІПЕЛЬ МАРЫЯ*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КОРЧЫК ЛЮБА і ЮРКА*
*КУНЦЭВІЧ МІКОЛА*
*КУШАЛЬ НАТАЛЬЛЯ*
*ЛАШУК АЛЯКСАНДАР*
*ЛІТВІНЕНКА ЕЎФРАСІНЬНЯ й ЯНКА*
*ЛУЖЫНСКІ НАДЗЕЯ, МІХАСЬ, ГЭЛЕНА, НЭЛЯ і ЧАСЛАЎ*
*МАЛЕЦКАЯ АЛІНА*
*МІСЮЛЬ НАДЗЯ й ЯНКА зь ДЗЕЦЬМІ*
*МІХАЛЮК ЛЕЛЯ й ЯНКА*
*МЯРЛЯК ГАННА, КАСТУСЬ і ВІНЦУСЬ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН ЮРКА*
*НЕПЕІН НАДЗЯ й АЛЯКСАНДАР*
*НІКАН ЛЕНА й МІКОЛА*
*НОРЫК КІНУСЯ, ЛЕНЯ й ДЗЕЦІ*
*ОРСА ПЕТРА зь СЯМ'ЁЙ*
*ПАШКЕВІЧ ВАЛЯНТЫНА й МІХАЛ зь СЯМ'ЁЮ*
*ПЛЕСКАЧ ТАНЯ й ВАСІЛЬ*
*РАМУК ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*РЫЖЫ ЯДЗЯ, ЭМІГІД'ЮШ, ПЕТР і ДАРОТА*
*СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ*
*СКАБЕЙ МІКАЛАЙ*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ*
*СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА й РАІСА*
*СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СУПРУН АННА й ТАМАШ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ШУСТ ГАЛЕНА й МІКОЛА*
*ЧАРНЭЦКАЯ АЛЯКСАНДРА*

***Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч***

---

*ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА*
*АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ*
*вітаець сваіх сяброўак і сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з*
КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ
Й
НОВЫМ 1985 ГОДАМ!

---

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
**Й**
**НОВЫМ 1985 ГОДАМ!**

---

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ З КАЛЯДАМІ ЎСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1985 ГОДУ!**

---

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*
*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1985 ГОДУ**
*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*
*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ**
**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

## ФІЛЬМ ЗЬ „ПЕСЬНЯРАМІ"

Газэта „Зьвязда" (16. XII. 84), пішучы пра дакумэнтальныя фільмы на тэму вайны (з нагоды 60-годзьдзя беларускага кіно), адзначыла й гэткі фільм:

„Своеасабліва адлюстраваў гэтую тэму С. Лук'янчыкаў у фільме ,Праз усю вайну', у аснову якога пакладзена новая канцэртная праграма ансамблю ,Песьняры' ".

## НОВАЕ І СТАРОЕ

Хоць у сучаснай беларускай вёсцы ёсьць і тэлевізары, і халадзільнікі, і крыху аўтамабіляў (пра гэта гл. у іншым месцы гэтага нумару „Б-са"), але засталіся там і каромыслы, і нястача тавараў штадзённага ўжытку, а часамі навет і бясхлеб'е, як пра гэта сьветчаць хоцьбы сабе два лісты ў рэдакцыю газэты „Зьвязда" за 14. XII. 1984 г., якія ніжэй перадрукоўваем:

У ЧАРЗЕ ЗА ВАДОЙ. (правільней было-б: у чарзе па ваду — рэд. „Б-са). Кожны раз, калі бываю на радзіме — станцыі Ясень Апісповіцкага раёну, назіраю, як цяжка даецца маім земляком вада.

Калодзежы ёсьць амаль у кожным двары. Ды вось бяда — некалькі гадоў назад яны перасохлі. Людзі цяпер карыстаюцца калёнкамі. Але іх вельмі мала на такую вялікую вёску, як наша, — усяго трычатыры. І вось з самай раніцы бяруць вяскоўцы вёдры ў рукі — і да калёнкі. Каму ісьці за 200 мэтраў, каму за кілямэтар. Іншы раз выцягваецца чарга на гадзіну. „Вось каб больш такіх калёнак паставілі!" — мараць жыхары станцыі Ясень.

**А. Казючыц,**
**выхавальнік дзіцячага саду.**

У МАГАЗЫН — ЗА ТРЫ КІЛЯМЭТРЫ. У вёсцы нашай, Галіцкая Мыза, магазыну няма. І аўталаўка да нас ня езьдзіць. За пакупкамі прыходзіцца хадзіць аж за тры кілямэтры.

Нялёгка гэта, асабліва ў нашым пэньсіённым узросьце. Але горш за ўсё, што „паходы" нашы нярэдка аказваюцца бязвыніковымі. Бо ў магазыне вельмі бедны асартымэнт тавараў. Хлеб і той завозяць нерэгулярна.

Зьярталіся мы да нашого дэпутата, у сельсавет, у раённыя арганізацыі. Прасілі, каб нармалізавалі работу гандлёвага пункту або знайшлі магчымасьць прысылаць у Галіцкую Мызу аўталаўку. Але ўсё застаецца паранейшаму. Хто-ж, нарэшце, дапаможа вырашыць гэтае, на наш пагляд, не такое ўжо складанае пытаньне?

**М. Іньдзерсон, Л. Лешас, У. Вешчаў, і іншыя (усяго 9 подпісаў), жыхары вёскі Галіцкая Мыза Клімавіцкага раёну.**

## ГАДАВІКІ „БЕЛАРУСА"

У кожным гадавіку газэты „Беларус" — маса матар'ялаў з жыцьця на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Рэдакцыя газэты мае на продаж пэўную колькасьць гадавікоў „Беларуса", пачынаючы ад сярэдзіны 1960-ых гадоў. Цана гадавіка — 10 даляраў, плюс кошт перасылкі. Калі-б хто хацеў набыць паасобныя нумары газэты за мінулыя гады (пры ўмове, што ў нас ёсьць дадатковыя экзэмпляры), мы можам выслаць. Цана: паўтара даляра за паасобнік, улучна з коштам перасылкі.

**Выдавецтва „Беларус"**

**ЗРАБЕЦЕ ПАДАРУНАК ПРЫЯЦЕЛЮ, ЗНАЁМАМУ, ПАДПІШЭЦЕСЯ ДЛЯ ЯГО НА ГАЗЭТУ „БЕЛАРУС".**

---

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**Падпіска й ахвяры, перасланыя беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

**ЗША**

| | |
|---|---|
| 1. В. Лукашэвіч | $ 30.00 |
| 2. А. Жылік | 3.00 |
| 3. А. Ліхач | 25.00 |
| 4. В. Кажан | 20.00 |
| 5. Л. Норык | 20.00 |
| 6. Н. Кушаль | 20.00 |
| 7. а. В. Кендыш | 12.00 |
| 8. П. Пікулік | 10.00 |
| 9. Я. Каханоўская | 10.00 |
| 10. Н. Лапушынскі | 10.00 |
| 11. Ул. Дурэйка (за нэкр.) | 10.00 |
| 12. М. Гумен (за нэкр.) | 10.00 |
| **Усяго:** | **$207.00** |

**Праз нашага прадстаўніка ў Нью Джэрзы сп. Б. Даніловіча:**

| | |
|---|---|
| 1. В. Сьліўка | $ 25.00 |
| 2. М. Каранеўскі | 25.00 |
| 3. Аддз. БАЗА ў Н. Дж. | 25.00 |
| 4. П. Талмачэвец | 20.00 |
| 5. Ю. Наумчык | 15.00 |
| 6. В. Шульжыцкі | 12.00 |
| 7. А. Балкоўскі | 10.00 |
| 8. П. Кажура | 10.00 |
| 9. А. Сільвановіч | 10.00 |
| 10. А. Дубяга | 10.00 |
| 11. А. Непейн | 10.00 |
| 12. Я. Сапежынскі | 10.00 |
| 13. а. Аляксандар | 10.00 |
| 14. Я. Літвіненка | 10.00 |
| 15. Ю. Азарка | 10.00 |
| 16. Я. Місюль | 10.00 |
| **Усяго:** | **$ 222.00** |

| | |
|---|---|
| Я. Азарка (на брашуру „Пр. Ц. ў Беласт. Краі") | **$ 20.00** |

**За калядныя вітаньні:**

| | |
|---|---|
| 1. В. Кажан | $ 30.00 |
| 2. Н. Жызьнеўскі | 20.00 |
| 3. В. Рамук | 10.00 |
| 4. Я. Каханоўская | 10.00 |
| 5. М. Войтанка | 10.00 |
| 6. Н. Кушаль | 10.00 |
| 7. К. Калоша | 10.00 |
| 8. Л. Норык | 10.00 |
| **Усяго:** | **$ 110.00** |

**Замест кветак на магілу сп. А. Горбата:**

| | |
|---|---|
| В. Захаркевіч | **$ 20.00** |

**КАНАДА**

**Замест кветак на магілу с. п. а. А. Смаршчка:**

| | |
|---|---|
| М. Шуст | 50.00 |
| М. Шуст (калядн. віт.) | 12.00 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | |
|---|---|
| 1. С. і О. Нарушэвіч ам. д. | 100.00 |
| 2. М. Шведа аўстр. д. | 15.00 |
| 3. В. Каралюк | 15.00 |
| 4. В. Качан (калядн. віт.) | 10.00 |
| 5. А. Грынько | 5.00 |
| 6. Л. Яцкевіч | 5.00 |

**Замест кветак на магілу с. п. а. А. Смаршчка:**

| | |
|---|---|
| В. Качан аўстр. д. | 20.00 |

**ШВАЙЦАРЫЯ**

| | |
|---|---|
| Я. Лёхэр | $ 12.00 |

## БРАШУРА ПРА ЦАРКВУ Й МОВУ

Выдавецтва „Беларус" выдала друкам брашуру няведамага аўтара з Польскае Народнае Рэспублікі пад загалоўкам: „Праваслаўная Царква ў Беластоцкім краі і беларуская мова ў ёй". У брашуры дэбатуецца пытаньне дыскрымінацыі беларускае мовы Праваслаўнаю Царквою ў ПНР, пішацца пра пагрозу поўнае палянізацыі Беларусаў. Тэма беларускае мовы ў Праваслаўнай Царкве закраналася ў шэрагу іншых артыкулаў і адозваў, што траплялі на Захад зь Беласточчыны.

Брашуру (выдадзеную невялікім кішэнным фарматам) зь цікавасьцяй прачытаюць на Беласточчыне, дзе ейнае першае выданьне выйшла абмежаным тыражом, усяго 100 экзэмпляраў.

Цана брашуры: 1 даляр. Выпісваць можна з рэдакцыі „Беларуса". Чэкі трэба выстаўляць на газэту „Беларус".

## ПРОСЬБА

Перасылаючы грошы на выдавецтва „Беларус", калі ласка, перасылайце ў **амэрыканскай валюце.** Гэта шмат аблегчыць нам улік і справаздачнасьць.

**Рэдакцыя „Беларуса"**